
Дарота Сульжык➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Кніжны кірмаш➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3233) Год LXIII | Беласток, 29 красавіка 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Ужо ў верасні ў Сухаволі адкрыюць Цэнтр трох культур. Мае гэта быць месца сустрэч, дыскусіі і мерапрыемстваў, прыпамінаючых аб меншасцях, якія калісьці жылі, і зараз жывуць у мястэчку. Цэнтр мае таксама вярнуць памяць пра яўрэяў, якія да вайны складалі палову насельніцтва гарадка. Ваенная гісторыя сухавольскіх яўрэяў падобная да ўсіх жыхароў такога тыпу гарадкоў на Сакольшчыне. Аднак пра некаторыя падзеі нават жывыя сведкі хочуць забыць.**



# І яўрэям належала Сухаволя

### Сухаволю збудавалі яўрэі

Першы дакумент, які пацвярджае прысутнасць яўрэяў у Сухаволі, гэта прывілея, дадзена каралём Аўгустам II у 1698 годзе. Тады кароль дазволіў яўрэям на гандаль і пабудову дамоў. Аднак некаторыя крыніцы сведчаць, што яўрэі ў Сухаволі жылі ўжо ў шаснаццатым стагоддзі.

Пасля атрымання Польшчай незалежнасці ў Суховолі, па дадзеных перапісу 1921 года, жыло 1262 яўрэяў, а ў 1937 годзе было іх ужо 1521, што давала 49% усіх жыхароў Сухаволі. Ім належала большасць крамаў. Яны былі таксама ўладальнікамі млына і двух піваварных заводаў.

Сымха Лазар, сухавольскі яўрэй, у сваёй кнізе «Знішчэнне Сухаволі» піша: «Салдаты былі здзіўлены, што там было так шмат яўрэяў! Толькі яўрэі ва ўсім свеце! Сухаволя, гэта быў вельмі маленькі горад. Здавалася, што ўсе яе жыхары былі яўрэямі, і ўсё належала яўрэям».

Менавіта найбольш яўрэйскіх дамоў размешчаных было вакол рыначнай плошчы і галоўнай вуліцы мястэчка. Яўрэйскі квартал — гэта самы цэнтр Сухаволі. Тут знаходзілася галоўная сінагога, якую пабудавалі ў 1747 годзе.

— Многа было ў нас яўрэяў, — успамінае Ян Гузоўскі з Сухаволі. — Нібы жылі разам, але яны мелі свае святы, свае звычаі і традыцыі. Яны трымаліся разам. Калі прыходзіла іхняе свята, хадзілі па вуліцах, шпацыравалі. Была тут сінагога, вялікаявялікая. Усярэдзіне ніколі я не быў, але часам хадзілі паслухаць, як моляцца яўрэі.

У дзевятнаццатым стагоддзі яўрэйская абшчына перажывала перыяд развіцця. У канцы васямнаццатага стагоддзя ў Дубroўскім павеце (які ахопліваў гарады Дуброва-Беластоцкая, Новы Двор, Ліпск, Кузніца, Сідра, Штабін і Сухаволю) найбольш яўрэяў жыло менавіта ў Сухаволі. Аб эканамічным статусе яўрэяў з Сухаволі сведчыць факт, што менавіта яны ў 1791 годзе суфінансавалі будову касцёла свсв. Пятра і Паўла.

— Яўрэі збудавалі касцёл. Сухаволю збудавалі, — успамінае Ян Гузоўскі. — Мелі млын, сваю сінагогу, дом малітвы. Яны жылі на «жоўтым пагорку». Так называлі горку ў Сухаволі, дзе стаялі дамы багатых яўрэяў. На «жоўтым пагорку» былі прыхожыя хаты. На нізе стаялі драўляныя, бедныя, а на гары ўжо мураваныя, такія прыгожыя.

### Знішчэнне Сухаволі

Сымха Лазар, сухавольскі яўрэй, які ацалеў з халакоста, у сваіх успамінах піша: «У першыя дні нямецкай акупацыі армія паводзіла сябе даволі цывілізавана. Салдаты заходзілі ў яўрэйскія крамы, куплялі ўсялякія тавары: шакалад, мыла, крэм для абутку і за ўсё плацілі».

Спакойная атмасфера не трывала доўга. На працягу некалькіх дзён у Сухаволю прыехала раённая паліцыя, якая адразу ж пачала набіраць невялікую колькасць яўрэяў на працу. Потым з'явілася гестапа і СС. Неўзабаве пачалі свае зверскія дзеянні, да якіх далучыліся і мясцовыя жыхары.

«Забойцы выцягнулі каля 120 яўрэяў і моцна пабілі. Пазней польскія і нямецкія забойцы гналі іх у кірунку ракі. У час як усё гэта адбывалася, немцы, стоячы на мосце, фатаграфавалі пагром. Узброеныя глядзелі як на спектакль. Былі гатовыя страляць у любога, хто паспрабуе супрацьдзейнічаць. Яўрэяў гналі ў напрамку яўрэйскіх могілак. Яны думалі, што там іх расстраляюць. Але гэтага не адбылося. Забойцы рыхтавалі нешта значна больш страшнага. Яўрэяў сагналі ў дом, які стаяў на краю лесу, недалёка ад яўрэйскіх могілак. Там яны зачынілі ўсе дзверы і ўсе вокны. Дом абліў бензінам і падпалілі», — успамінае Сымха Лазар.

Ян Гузоўскі, які памятае тыя жудасныя падзеі, не надта хоча аб гэтым расказваць.

— Так было. Нашы з Сухаволі памагалі немцам. Адных прымушалі, іншых хіба не... Не ведаю, — успамінае спадар Ян. — Я нават ведаю па імені і прозвішчы, але не хачу гаварыць. Пасля таго, як вывезлі яўрэяў з Сухаволі, шмат хто хадзіў яшчэ па іхніх хатах і шукаў золата. Але гэта ўжо гісторыя, а каго трэба было, таго пакаралі. Былі працэсы над гэтымі, якія памагалі немцам.

Жудасныя падзеі, якія мелі месца пры яўрэйскіх могілках у Сухаволі, адбываліся 1,3 км на поўнач ад Рынку, пры скрыжаванні дарог у Аўгустаў і вёску Пакосьна. Паводле інфармацыі, могілкі былі заснаваны ў дзевятнаццатым стагоддзі. Вядома, што да 1939 года могілкі былі абведзены каменным мурам. Тут стаяў таксама драўляны будынак, які выконваў ролю пахавальнага дома. У цяперашні час на могілках можна знайсці толькі элементы пашкоджаных надмагілляў. На краю могілак знаходзіцца сучасны помнік з кароткай інфармацыяй: «Яўрэйскія могілкі ў Суховолі, заснаваныя ў сямнаццатым стагоддзі. Разбураны нямецкімі акупантамі падчас Другой сусветнай вайны. Аднаўлены ў 2010 годзе. Паважай памяць гэтага месца».

Таксама комплекс школ у Сухаволі захоўвае некалькі надмагілляў, знойдзеных у розных вёсках. Апрача некалькіх будынкаў, у тым ліку дома малітвы, які доўгі час выконваў ролю гімнастычнай залы, у Сухаволі няма ніводных слядоў па даўніх яе жыхарах. Дошка на зарослым кіркуце гэта адна вестка, якую можна знайсці ў мястэчку.

### Пражыў дзякуючы суседзям

Восенню 1942 года было ліквідавана сухавольскае гета. Яго жыхароў дэпартавалі ў Калбасіна. Стуль Сымха Лазар і двух яго сяброў уцяклі і вярнуліся ў родную Сухаволю. Тут дапамагаюць ім даўнія знаёмыя, палякі, якія больш за месяц хаваюць суседзяў у сваёй стадоле.

— Карбоўскія, бо ў іх хаваліся яўрэі, баяліся за сваё жыццё, — успамінае Ян Гузоўскі. — У Сухаволі ўвесь час былі немцы. Таму іх ноччу перавезлі ў Яцвязь. Там таксама баяліся хаваць яўрэяў, але знайшоўся адзін гаспадар, які трымаў іх у зямлянцы. Насіў ім яду. І так удалося ім перажыць вайну.

Сымха Лазар пасля вайны з'ехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе дажыў ста гадоў. Амаль цэлы час утрымліваў кантакты з сем'ямі, якія дапамагалі яму ў час вайны. Сымха Лазар з удзячнасці хацеў ахвяраваць свой дом, які знаходзіўся ў самым цэнтры горада, але яго выратавальнікі не хацелі прыняць такой вялікай заплаты.

Менавіта з успамінаў Сымхі Лазара, якія выйшлі пад загалоўкам «Знішчэнне Сухаволі», найбольш можна даведацца пра жыццё яўрэяў мястэчка, але перш за ўсё пра трагедыю, якая сустрэла ўсіх яўрэяў. Страшэнны смутак у сэрцы. Цяжка, вельмі цяжка апісаць усе эмоцыі, усе думкі. Ніхто не мог зразумець, за выключэннем тых, хто ішоў гэтай самай дарогай і перажыў.

**Уршуля ШУБЗДА**

фота https://www.jewishgen.org/yizkor/suchowola1/suc001.html


9 770546 196017



# Атрута і трутні

На гэтым тыдні беларусы ўспомняць чарговыя змрочныя ўгодкі з дня страшнай даты найноўшай гісторыі — 26 красавіка 1986 года адбылася Чарнобыльская катастрофа. Колькі чалавечых жыццяў забраў так званы „мірны савецкі атам" — нават прыблізна ніхто не ведае. Тысячы, дзясяткі тысяч, сотні тысяч?! Як замоўчвалася камуністычным кіраўніцтвам спярша сама аварыя і яе імклівыя страшныя наступствы, так хаваецца праўда і пра доўгатэрміновае шкоднае, а для многіх і смяротнае, уздзеянне радыяцыі. Паколькі апошнія дваццаць гадоў дзяржаўная сістэма РБ працавала так, што праўду не належала ведаць у прынцыпе, то зараз сапраўдныя маштабы наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, мяркую, невядомыя ўжо нікому. Калі доўга падманваць саміх сябе, праўда ўцякае далёка.

Чарнобыль — далёка не адзіная экалагічная бяда беларусаў. Салігорск, Мінск, Наваполацк, Гродна — усе гэтыя гарады з-за шкодных прадпрыемстваў пакутуюць на неспрыяльнае асяроддзе, на забруджанае паветра. Якое сапраўднае экалагічнае становішча ў пералічаных населеных пунктах — таксама не ведае ніхто. Альбо ведаюць адзінкавыя службовыя асобы, якія ніколі не скажуць людзям праўды. Замест укаранення новых ачышчальных тэхналогій, урад зараз размяшчае ў гарадах Беларусі новыя шкодныя вытворчасці, якія іншыя краіны імкнуцца вынесці за свае межы. Зараз на чарзе Светлагорск і Брэст. У Светлагорску, які і так мае шмат праблем, апошнім часам смурод ад цэлюлозна-кардоннага камбіната. Мясцовыя жыхары спрабуюць пратэставаць супраць завода беленай цэлюлозы, пабудаванага кітайцамі на базе ранейшага кардоннага камбіната. Завод яшчэ не ўведзены ў эксплуатацыю, але нават яго праца ў тэставым рэжыме абурыла жыхароў райцэнтра і насельнікаў прылеглых вёсак. А ў горадзе над Бугам вядзецца будаўніцтва акумулятарнага завода. Яго будуюць тыя ж кітайцы, а на заводзе будзе наладжаны поўны цыкл вытворчасці свінцова-кіслотных акумулятарных батарэй. Не здзіўляе, што мясцовыя ўлады без усялякіх папярэдніх экспертных камісій і грамадскіх абмеркаванняў вырашаюць будаваць тое, што ім хочацца. Здзіўляе, што мірна пратэставаць супраць такога небяспечнага будаўніцтва выходзіць не паўгорада, не дзясяткі тысяч грамадзян, а толькі 200-300 чалавек. Таму і ігнаруюць чыноўнікі гэтыя сціплыя пратэсты, плююць на людзей звысоку надалей.

Тут яшчэ варта згадаць пра адну шкодную вытворчасць — прадпрыемства па вытворчасці драўляных пліт і падлогавых пакрыццяў на беразе цудоўнай рэчкі Вялля непадалёк Смаргоні. Яно было запушчана ў 2012 годзе і нарабіла ўжо нямала шкоды навакольнаму асяроддзю. Прытым галасы пратэсту нешматлікіх эколагаў застаюцца воклічамі ў пустэльні. Нікуды не падзелася і галоўная сённяшняя небяспека — пабудова Астравецкай атамнай станцыі, якая нясе новую, куды больш страшную пагрозу, чым даўняя Чарнобыльская. Гэта ж трэба было дадумацца, каб будаваць такую станцыю ў сапраўдным прыродным райскім куточку краіны. Ніякі вораг не прыдумае горшага варыянта.

Пра што б не плялі высокія начальнікі на прапагандыскіх нарадах і фальшывых паказушных суботніках — пра ўяўную мадэрнізацыю ці пра хуткі эканамічны скачок — усё гэта пыл у вочы. Бо па ўсім відаць і выходзіць, што гэтыя цяперцы, якія жывуць пад дэвізам „Пасля нас хоць патоп!", пераўтварылі Беларусь у краіну трэцяга свету, якая нібыта толькі і годная, каб будаваць тут небяспечныя прадпрыемствы са шкоднымі выкідамі. Уладныя ж трутні апраўдаюць кожную атруту.

Савецкі Саюз знік на палітычнай карце свету, але ён застаўся ў галовах і рэальных урадах пераважнай бальшыні былых „сацыялістычных рэспублік" — у Беларусі, Арменіі, Расіі, Малдове... З людзьмі ніхто на гэтай прасторы не лічыцца і лічыцца не збіраецца. Людзі для ўлады — гэта смецце, у лепшым разе будаўнічы матэрыял, да якога і стаўленне адпаведнае. Самі ж людзі звыкліся з паднявольнай, амаль рабскай доляй. Жорсткія і жахлівыя чарнобыльскія ўрокі так і не вывучаны.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Чым небяспечная Беларуская атамная электрастанцыя – акрамя радыяцыі

Чым бліжэй дзень запуску першага рэактара на БелАЭС у Астраўцы, тым горш палітычныя адносіны Вільні і Менска. Абодва бакі дэманстратыўна паніжаюць узровень камунікацыі чыноўнікаў. І апынуліся ў сітуацыі, пры якой чакаць саступак адзін аднаму не выпадае. Вядома, пагаршэнне двухбаковых адносін стала вынікам супадзення шматлікіх фактараў. І будаўніцтва АЭС тут толькі эпізод. Але гэты эпізод мае патэнцыял ператварыцца ў бомбу. Не атамную, а палітычную. Справа ў тым, што адным з элементаў бяспекі АЭС з'яўляецца яе абарона з паветра. Якая забяспечваецца як арганізацыйнымі мерамі (увядзенне зоны закрытай для палётаў), так і канструктыўнымі (здольнасць канструкцыі вытрымаць падзенне паветранага аб'екта). Гаворачы аб Астраўцы варта адзначыць, што бяспека атамнага комплексу будзе забяспечвацца ў тым ліку і сіламі СПА. Першапачаткова меркавалася, што ў раёне АЭС будзе дыслакаваная батарэя зенітна-ракетных комплексаў ТОР-М2Э. Але ў лютым 2018 года было заяўлена, што для абароны АЭС выдзеляць цэлы полк: 1146-ты зенітны ракетны, на ўзбраенні якога ўжо 4 батарэі ТОРаў, а да канца года дадасца 5-я. Год таму, у красавіку лёгкаматорны самалёт заляцеў з тэрыторыі Летувы ў паветраную прастору Беларусі. І якраз у раёне Астраўца. На парушэнне сваёй паветранай мяжы ў Менску адрэагавалі вельмі нервова. Заявіўшы, што ў беларускага боку было права на выкарыстанне зброі па парушальніку. Беларуска-летувіская мяжа мае складаную канфігурацыю. Што служыць прычынай ненаўмысных і кароткачасовых залётаў лёгкаматорных самалётаў у паветраную прастору Беларусі з летувіскага боку. Такія інцыдэнты не аказвалі прыкметнага ўплыву на двухбаковыя адносіны. Увядзенне ў строй БелАЭС прывядзе да ўзмацнення жорсткасці рэжыму бяспекі ў раёне станцыі. У тым ліку і ў паветранай прасторы. Што з'яўляецца распаўсюджанай міжнароднай практыкай. І заявы беларускіх генералаў аб магчымасці прымянення зброі па самалётах-парушальніках мяжы ў раёне Астраўца сталі сур'ёзным і канкрэтным папярэджаннем. Акрамя таго варта памятаць, што Астравецкая АЭС — асабістa для А. Лукашэнкі гэта не толькі эканамічны, але і знакавы іміджавы праект. Што робіць жорсткія меры ў дачыненні да любога парушальніка рэжыму бяспекі электрастанцыі практычна непазбежным. Тым больш, што бяспакаранае парушэнне паветранай мяжы ў раёне АЭС можа справакаваць абвінавачванні Менска з боку Расеі ў «дзіравасці» беларускай сістэмы СПА. А гэта рэанімуе ідэю размяшчэння расейскай авіябазы ў Беларусі. І ўскладніць адносіны Менска ўжо з Захадам у цэлым і з Украінай. Прымяненне зброі па чарговым парушальніку паветранай мяжы Беларусі і Летувы справакуе вострыя крызіс у двухбаковых адносінах. Так што Беларуская АЭС — не толькі аб'ект падвышанай тэхнічнай небяспекі. Але небяспекі палітычнай. І з першай, і з другой нам прыйдзецца жыць. Таму што, як было сказана напачатку каментара, увядзенне БелАЭС ў строй непазбежна.

Андрэй ПАРОТНІКАЎ
racyja.com



Сваімі вачыма

# Падарожжы круглы год

Куды варта паехаць? Больш-менш з паловы лютага размовы пра веснавыя і летнія падарожжы пачынаюць уладкарыць мроямі і размовамі большасці маіх знаёмых. Генеральна з гадамі назіранняў заўважаю пастулюючую, прафесійную падрыхтоўку да патрэбы адпачынку не толькі ўжо ў традыцыйным сезоне, але і цягам усяго года. Зараз менавіта круглагадовае вандраванне многім людзям з'яўляецца хіба спробай павышэння свайго абарончага імунітэту арганізму перад штодзённымі выпрабаваннямі сямейна-працоўных выклікаў. Таму падарожжы ўвесь год гэта ўжо нармальнасць, а не аніякая фанабэрыя. Часамі мне нават ужо здаецца, што некаторыя больш часу знаходзяцца ў перманентных паездках і іх планаванні, чымсьці ў рэальным працоўным свеце, бо ж інтэрнэт і сацыяльныя сеткі даюць магчымасць незаўважна прамантачыць дзень і за рабочым сталом. Асабліва, калі ўвага і мазгі безупынна шукаюць чарговых прамоцый турфірмаў ці танных квіткоў авіякампаній. Адзін мой знаёмы год з падарожжамі пачынае з дакладнага аналізу супадзення прыпадаючых выходных дзяржаўных ці рэлігійных свят з цягам тыдня. Такім чынам адзін ці два дні з суботай ці нядзеляй даюць яму цэлы тыдзень або і больш бестурботнага знікнення з працы. Таму ягоны графік складзеных пры канца года адпачынковых дат з'яўляецца для мяне найлепшай падказкай, што і чаго нельга чакаць у працоўнай сферы сярод маіх знаёмых гэтымі днямі. Склаўшы такую жалезную карціну дзён адпачынку, мой знаёмы прыступае да другога этапу лагістычнай аперацыі, якая мае яму прынесці другую перамогу — многа замежных вандровак, але за як найменшую цану. Хачу тут адразу сказаць, што з'яўляецца ён прыхільнікам і карыстальнікам турыстычных аб'ектаў высокага стандарту. Тут ён па поўнай праграме ўкладваецца ў прымаўку, што час гэта... грошы. Браніраваныя як мінімум паўгода раней самалётныя білеты, турыстычныя туры або гасцініцы прапануюць такія перадсезонныя скідкі, якія дазваляюць трымацца фінансавага выжывання. Ну і другі элемент такой вялікай магчымай колькасці паездак гэта адпачынак у перадсезонным тэрміне або пасля яго. Мой знаёмы мае распрацаваную здаецца яшчэ і трэцюю дарогу паніжэння коштаў. Паколькі ён чалавек кампанейскі і шмат у яго знаёмых, то часта адпраўляюцца яны групай з шасці-васьмі чалавек. Пры такой колькасці жадаючых адпачыць асоб, напрыклад, цягам тыдня ў адным месцы даецца магчымасць да перамоў пра дадатковыя скідкі на яду ці начлегі. Вядома, вышэй апісаныя дзеянні і намаганні патрабуюць значнай аддачы гэтай справе, але як відаць перспектыва замежнага адпачынку ў даволі даступнай цане варта такіх захадаў. Гэта магчымае і таму, што належыць ён да гэтага гатунку турыстаў, якія маюць свае любімыя месцы, да якіх любяць ездзіць напрыклад тры гады запар. Тая знаёмасць рэалій месца і часта ўжо самых уласнікаў дазваляе і на непасрэднае браніраванне месца і тэрміну адпачынку.

Другі мой сябра мае крыху іншую філасофію і тактыку арганізавання сабе таннага адпачынку. Любіць ён падарожнічаць сам або найвышэй з адной яшчэ асобай і не бываць у тых жа самых месцах. Як мне распавядаў, свае вандроўкі выбудоўвае выключна ў супрацы з дзвюма тур-фірмамі, з якімі цягам апошніх пятнаццаці гадоў з'ездзіў немалы кусок свету. Тут менавіта спрацоўвае праграма шматгадовай лаяльнасці турыста і знаёмства з працаўнікамі гэтых бюро. Менавіта яны прапаноўваюць яму таксама загадзя свае прамацыйныя кірункі і месцы падарожжаў, а таксама дапамогу ў пошуках атракцыйных паездак сярод сваіх партнёраў. Ён таксама добра і дакладна раней ведае, куды хоча паехаць і што пабачыць канкрэтна ў новым месцы. Такая даволі выразная запатрабаванасць дазваляе вельмі добра падрыхтаваць індывідуальную прапанову кожнаму турысту. Менавіта большыя і спрактыкаваныя турыстычныя фірмы ў змозе адказаць на патрабаванні і спадзяванні майго знаёмага. А ён дзякуючы гэтаму павялічвае сваю калекцыю падарожных карт.

Яўген ВАПА

# «Лямцавая прастора» Дароты Сульжык

Пад канец сакавіка ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы была адкрыта выстава «Лямцавая прастора». На экспазіцыі паказаны каляровыя шалі з воўны і шоўку, лямцавыя брошкі ў выглядзе кветак і шмат іншых вырабаў практычнага выкарыстання выкананых Даротай Сульжык з лямцу. Большасць прэзентаваных у белмузеі прац аўтарка падрыхтавала спецыяльна для сваёй трэцяй персанальнай выставы.



Дарота Сульжык каля сваіх шаляў і брошак



Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк разам з Даротай Сульжык адкрылі экспазіцыю ў прысутнасці шматлікай публікі, сярод якой былі сябры і знаёмыя аўтаркі, самаўрадаўцы, настаўнікі і працаўнікі ўстаноў культуры. Звярталі яны ўвагу на вялікія мануальна-мастацкія здольнасці Дароты Сульжык. Працэс лямцавання засвоіла яна сама і ўмела разгарнула гэтыя здольнасці. Навучылася лямчыць часаную воўну ў прытульныя, цёплыя і моцныя шалі, біжутэрыю, сумкі, тапачкі і іншыя вырабы. Публіка пабачыла, між іншым, прыгожы свет лямцавых шаляў і брошак ды цацак, якія былі ўжо выканаы з іншых тканін.

— Я цяпер перш за ўсё займаюся лямцам. Рыхтуючыся да выставы ў Гайнаўцы я за некалькі месяцаў злямчыла з воўны многа каляровых шаляў, якія выконвала таксама з выкарыстаннем шоўку, брошак з выявамі кветак і раслінных матываў. Я таксама выконваю лямцавыя біжутэрыю, абажуры і вопратку. Перш за ўсё з лямцу выконваю вырабы, якія заказчыкі выкарыстоўваюць у практычных мэтах. Аднак цяпер рабіла я некаторыя прадметы спецыяльна для экспазіцыі, каб паказаць, што можна зрабіць з лямцу. А выконваю з яго таксама шапкі, пальчаткі, кветкі, круглячкі і іншыя вырабы. Усе мае вырабы непаўторныя, бо не раблю копій. Я звяртаю асаблівую ўвагу на колеры і таму маё рукадзелле моцна каляровае, — заявіла Дарота Сульжык яшчэ да адкрыцця выставы.

— Дарота Сульжык з'яўляецца трыццаць другой асобай, якой работы экспануюцца ў нашым музеі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Паказвалі мы ўжо жывапіс, скульптуру, разьбу, прыйшла чарга і на мастацкае рукадзелле, якое ў нас мала вядомае. Вялікая колькасць людзей тут сабраных сведчыць, што мы добра падабралі прапанову для чарговай экспазіцыі, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Спадарыня Сульжык з юнацтва займалася рукадзеллем — пляла пруткамі, вязала кручком, вышывала, ткала габелены.

— Ад сямі гадоў я стала выконваць вырабы з лямцу. Да ўкладзенай у паласы воўны дабаўляю ваду, мыла і лямчу ажно атрымаецца запланаваны выраб. Карыстаюся воўнай аўстралійскага мерыноса, якая больш тонкая і далікатная, чым нашай авечкі і таму добра падыходзіць да маіх вырабаў. Затое воўна нашых авечак вельмі падыходзіла да валёнак, якія былі цёплым абуткам і ў мінулым выраблялі іх у нас масава. Апошнім часам выканала я нават лямцавыя боты, якія напамінаюць колішнія валёнкі. Свае вырабы выконваю пад заказ. Стараюся, каб колеры і цэлая кампазіцыя адпавядалі заказчыку. На маіх шалях выкарыстоўваю раслінныя матывы, перш за ўсё выявы кветак. Вырабы праектую сама, але карыстаюся таксама народнымі матывамі, напрыклад узятымі з дываноўпасякоў, якія ў палосы ткалі нашы бабулі. Я ахвотна працую з чырвоным, зялёным, аранжавым, ружовым і бронзавым колерамі і іх адценнямі. Яны жыццярадасныя. Трэба яшчэ ўмела саставіць адценні колераў, каб спалучыць іх у цэласную кампазіцыю, — сказала Дарота Сульжык, якая свае вырабы рыхтавала ў майстэрні «Сундук».

— Дарота Сульжык — вельмі каляровая постаць, так як і яе рукадзелле. Як сама кажа пра сябе: «Я проста запраграмаваная на колер». У яе працах бачны калейдаскоп фарбаў, якія колерам і формай звяртаюцца да натуры. Яна моцна звязана з традыцыяй і культурай рэгіёна. Сваю майстэрню назвала «Сундук». Гэта на Падляшшы пасажная скрыня, у якой знаходзіўся пасаг маладой: вопратка, пасцель, тканыя і вышываныя абрадавыя ручнікі — без якіх нельга было абысціся. У сваім «Сундуку» Дарота Сульжык сёння накоплівае крыху іншыя скарбы — больш дэкаратыўныя: незвычайныя каляровыя шалі са злямчанай воўны і шоўку, кветкавыя брошкі, лямцавую біжутэрыю, каты з ануч. Апошняя калекцыя «круглячкі» звяртаецца да вясковых падляшскіх палавікоў, якія робяць з парэзаная у паясы старой вопраткі. Аўтарка некалькі гадоў таму захапілася тэхнікай лямцавання на мокра. З гэтага часу яна эксперыментуе з часанай воўнай, шоўкам ды іншымі матэрыяламі. Намерваецца паказаць мастацкія магчымасці лямчання. На Падляшшы лямец асацыіруецца з валёнкамі — цёплым абуткам на марозны час. Лямцавае рукадзелле Дароты Сульжык — мяккае, аўтарка гуляе з матэрыялам, колерам, структурай і формай, вычароўваючы адрозныя прасторы шматколернага лямцу, — напісала спецыяліст белмузея па мастацтве Агнешка Ціханюк у міні-альбоме праілюстраваным здымкамі экспанаваных прац.

Альбом увайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў», які Гайнаўскі белмузей рассылае ў бібліятэкі Падляшскага ваяводства і галоўныя бібліятэкі Польшчы, таму мастацтва Дароты Сульжык стане яшчэ больш вядомым, чым было дагэтуль.

Дарота Сульжык — ураджэнка Гарадка, з сям'ёй жыве ў Валілах-Станцы. Працавала настаўніцай польскай мовы ў ліцэі ў Міхалове, многа гадоў супрацоўнічала са штомесячнікам «Часопіс», публікуючы ў ім свае рэпартажы па культурна-грамадскіх тэмах. З 2015 года з'яўляецца рэдактарам газеты «Гарадоцкія навіны» і аніматарам культуры Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку.

— З 2010 года ў сваёй майстэрні «Сундук» Дарота Сульжык лямчыць і шые цацкі, званыя «сундучкамі», выконвае пацеркі, завушніцы, сумачкі і дэкаратыўныя дэталі. Стараецца, каб яе сундуковыя вырабы вылучаліся каларытнасцю і формай, — дабаўляе Агнешка Ціханюк.

— Я пад вялікім уражаннем прэзентаваных тут мастацкіх прац Дароты Сульжык, якія можна выкарыстаць для практычных мэт. Лямцавыя вырабы падабаюцца не толькі жанчынам, бо паглядзець іх прыйшлі таксама мужчыны, — заўважыў намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка.

— Моцныя колеры і іх адценні робяць прэзентаванае тут мастацкае рукадзелле адметным. Лямцаванне шаляў і іншых вырабаў — рэдкае мастацтва і таму варта было прыйсці на выставу, — сказаў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі.

— На выставе многа цудоўных прац з раслінным матывамі. Мяне асабліва зацікавілі народныя матывы, узятыя з тканых пакрывалаў, якія ў мінулым на гэтай тэрыторыі выконвалі жанчыны, — заявіла Аліна Дэмбоўская, кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім.

— На выставе асабліва цудоўныя рознакаляровыя шалі з прыгожымі матывамі. Цікавыя таксама брошкі і астатняя біжутэрыя ды каляровыя цацкі, якімі могуць карыстацца дзеткі і якія можна выкарыстаць у якасці аздобы, — гаварыла гайнаўская гімназістка Эва Іванюк, а яе мама Мірослава Маеўская-Іванюк, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах, таксама выявіла сваё захапленне мастацкімі вырабамі практычнага выкарыстання.

Дарота Сульжык вядзе майстар-класы па лямцу для дзетак і дарослых, супрацоўнічае з рознымі ўстановамі. Былі арганізаваны дзве персанальныя выставы яе прац: «Што можна вычараваць з лямцу» ў 2014 годзе ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку і «Усе колеры лямцу» на зломе 2014 і 2015 гадоў у Музеі Белавежскага нацыянальнага парку. Трэцяя выстава яе работ працуе зараз у Гайнаўскім белмузеі. У 2015 годзе працы Дароты Сульжык прэзентаваліся на калектыўнай выставе ў Ваводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку. Дарота Сульжык запраектавала і выканала амулецік ваўчанятка да кніжкі Багдана Дудко «Ваўчок-Маўчок». У 2016 годзе атрымала статуэтку «Жанчына з пасіяй 2015» часопіса «Мая кватэра».

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Парк толькі з назвы

Паўвека таму больш-менш у цэнтры Гайнаўкі быў парк. Было ў ім многа перш-наперш ліставых дрэў, між іншым, бяроз, ліп, клёнаў і дубоў. Частка яго была абгароджана. Гэтак было яшчэ перад 1958 годам і недзе да 1962 года. Я тады вучыўся ў гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі і даязджаў поездам у школу. З чыгуначнага вакзала хадзіў вуліцай Леніна. Да 1960 года высокі драўляны плот стаяў з аднаго боку гэтай вуліцы. За ім была тады ўжо ў ліквідацыі фабрыка шкіпінару. Відаць было невялікія будынкі з чырвонымі дахамі і над імі ўзвышаліся два чорныя коміны.

Ідуць гады і той колішні парк займае ўсё меншую і меншую плошчу. З аднаго яго боку пабудавалі жылыя блокі. Выбралі тут месца і пабудавалі даволі вялікі амфітэатр і новыя сцежкі да яго. У далейшым перабудоўваюць ды пашыраюць вуліцы і тратуары. Гэта таксама коштам дрэў. З кожным годам сякуць і сякуць паркавыя дрэвы. Іх усё менш і менш. Калі 11 красавіка гэтага года я быў у гайнаўскім парку, агарнуў мяне жах. Дзе зараз той парк? Тут нават летам рэдка калі чуваць шчэбет птушак. Многа дрэў ссеклі побач скрыжавання вуліц Арміі Краёвай, Паркавай і Белавежскай. Усё ў імя таго, каб лепшая была бачнасць на скрыжаванні.

У парку засталіся толькі нешматлікія волаты-дубы. Яны аднак аслабелі. Некаторыя засталіся збоку парку і ім цяжка абараніцца ад напорыстага ветру, калі вясной і летам зашумяць густым лісцем. Зараз мала тут таксама бяроз, а было іх тут найбольш ды вельмі прыгожых. Яшчэ да 11 красавіка дрэвы былі без лісця і цераз парк бачны былі гарадскія будынкі. Малы гэты парк. Мала ў ім месца для прагулкі на свежым паветры. Таму гарадскім уладам трэба прысвяціць парку больш увагі. Неабходна садзіць больш ліставых дрэў шляхетных гатункаў і дэкаратыўных кустоў. У мінулым годзе чамусьці ў парку не было кветак. Зялёная трава гэта мала. Чым тут парадаваць вочы?

## Ужо пачаўся веласіпедны сезон

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных дарожак. Цяпер маем іх больш ста кіламетраў. Новыя трасы для веласіпедыстаў пабудавалі па вуліцах Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. На некаторых артэрыях дарожкі бягуць нават паабапал вуліц, між іншым, на вуліцы ген. Мачка і ген. Клеберга. Каб было больш бяспечна ехаць, веладарожкі пабудавалі на беразе рачулкі Белая ды пад двума мастамі ўздоўж алеі Пілсудскага да вуліцы Палацовай (гэта ў цэнтры горада). Новыя будуюць перш-наперш тады, калі вуліцы перабудоўваюць і пашыраюць.

У мінулым годзе будавалі новыя веласіпедныя шляхі, між іншым, пры вуліцы Браніцкага, Радзымінскай, І Арміі Войска Польскага, Пагоднай, Звежынецкай і ген. Галлера. У пачатку снежня мінулага года пачалі пабудову 3-кіламетровай дарожкі з Беластока ў Васількаў.

Варта дадаць, што для цыклістаў вельмі важна, каб веладарожкі часцей спалучаліся і была магчымасць выгадна даехаць па іх з перыферыі ў цэнтр Беластока.

1 красавіка гэтага года пачаўся чарговы веласіпедны сезон, які закончыцца 30 лістапада. Сёлета цыклісты атрымалі да карыстання 654 гарадскія ровары Беластоцкага веласіпеднага транспарту „BiKeR". Зараз у горадзе дзейнічае 56 пунктаў пракату ў найбольш зручных месцах. Дайшлі новыя, між іншым, па вуліцы Канстытуцыі 3 Мая і 42 Палка пяхоты. Яны адкрыты кругласутачна. Фірма ўжо памяняла ўсе кошыкі для багажу на большыя і мацнейшыя.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Кароў няма — ходзяць зубры, свіней няма — ходзяць дзікі

— Да Другой сусветнай вайны людзі амаль не ведалі ветэрынараў, а абследаванне мяса не было ў модзе, — расказваў мне ў снежні 1999 года 73-гадовы тады Мікалай Багацэвіч з Орлі. — Тады звычайна каралі раз у год, багацейшыя гаспадары каралі ў год двое свіней. Гадаваць свіней мог кожны.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе калоць свіней дазвалялася, але частку мяса трэба было здаваць у кантынгент. Падчас нямецкай акупацыі свіней рэгістравалі і дазвалялі легальна закалоць, калі селянін здаў аднаго вепрука немцам. Людзі не ўсіх свіней рэгістравалі і калолі патайком.

Спадарыня Вера Назарэвіч з Орлі, 77-гадовая майстрыха каўбаснай справы, так расказвала ў верасні 1998 года:

— Калісь калолі свіней толькі пад Руздво і Вялікдзень, а зараз ніхто на гэта не зважае: толькі мяса ў маразілцы скончыцца, то б'юць нават у разгар лета.

Аказваецца, што зараз, пры поўнай дэмакратыі ў свабоднай Польшчы, селянін не можа гадаваць свіней нават на свае патрэбы.

Тэма гадоўлі свіней паявілася на... сесіі Гміннай рады ў Орлі 30 сакавіка г.г. пры разглядзе вольных прапаноў.

Солтыс Антон Голуб з Дыдулёў:

— Наша Арлянская гміна ўключана ў чырвоную зону ASF (African Swine Fever) — афрыканскай чумы свіней (АЧС). Не ведаю, ці паведамлялі войта, а да гэтай пары выпадкаў заражэння свіней у нашай гміне не было; былі ў зоне Бельска і Гайнаўкі.

Войт Пётр Сэльвесюк:

— Пра тое, што наша гміна апынулася ў зоне, мы ведаем; у Гмінную ўправу прыходзяць паведамленні, гэта публічныя інфармацыі. У гэтай сітуацыі мы з'яўляемся толькі атрымальнікамі такіх паведамленняў. Ёсць адпаведныя службы, якія павінны гэтым займацца, напрыклад, паятовы лекар ветэрынарыі, які ездзіць і забірае людзям свіней з не да канца легальнай гадоўлі. Чую па тэлебачанні нейкія неразумныя выдумкі, каб на мяжы паміж Польшчай і Беларуссю пабудаваць


poranny.pl

плот і гэта засцеражэ ад АЧС. З'явілася чарговая думка, каб выстраляць усіх дзікоў, то тады таксама прападзе АЧС. А гэтую хваробу разносіць і іншая звярына. Калісьці таксама той АЧС быў і ніхто не рабіў з гэтага праблемы. Тут не ідзе пра АЧС, а справа ў эканоміі, у палітыцы, бо інакш гэтую праблему рашалі б, калі б хвароба спачатку паявілася ў Мазавецкім ваяводстве, а не ў перыферыйных ваяводствах. Бо каму найбольш дакучае той АЧС? Сялян, звычайных свінаводаў, якія трымалі свіней сабе. А што ёсць эканомія, ёсць рынак, то знайшоўся «файны» аргумент, каб штосьці зрабіць на свіным рынку. Аргумент прыйшоў сам у выглядзе хворых дзікоў і з-за гэтага з рынку былі выключаны ўсе тыя невялікія свінаводы. І зараз што тыя людзі робяць? Ідуць у краму і далей тое мяса купляюць. Мы, як гміна, ведаем, але мы не з'яўляемся тым органам, які гэтай праблемай займаецца.

Я пакарыстаўся нагодай, што ў зале былі і пенсіянеры, і яшчэ актыўныя сяляне, запытаў, як зараз у вёсках выглядае справа гадоўлі свіней на ўласныя патрэбы. Нядаўна сустрэў я знаёмую з Кашалёў, якая купіла два пакеты цыбулі, тлумачачы, што гэта мужу, які цыбулю любіць. Я дадаў, што саланінка пэўна свая. «А дзе ж свая, калі нельга гадаваць свіней, а курэй можна толькі дзевяць штук».

Антон Голуб:

— Зараз не змаганне з АЧС, але з тымі, што гадавалі для ўласных патрэб. Бо задаволіць усе гэтыя патрабаванні складана і не аплачваецца. У нашым наваколлі людзі звялі кароў, бо людзі ўжо старыя і не ў змозе іх дагледзець. Але тое парася яшчэ гадавалі б. Але нельга. І сёння ёсць так: кароў няма — прыходзяць зубры, свіней няма — то ходзяць дзікі. І носьбітам АЧС не з'яўляецца свіння, толькі дзік. І калі б гэта было так заразнае, то ўжо ўсе дзікі павінны ў нас паздыхаць. А яны рыюць як рылі. Таксама зубры, алені, ласі. Я чытаў у медыях, што нейкі чыноўнік хацеў усё Падляшша далучыць да Белавежскай пушчы; такія ў яго былі планы. І хіба гэты план рэалізуецца. Бо зарасце. Калісь людзі садзілі лес і без дазволу. Але як было мала дрэў, то гэта нікому не перашкаджала. Зараз з'яўляюцца самасеі і няма закону, каб прымусіць уласніка ліквідаваць іх. У будаўніцтве ёсць будаўнічы нагляд, а за самасеямі нагляду няма.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Жыхары Шчытоў хочуць мець колішні прыпынак Арлянка

У «Ніве» ад 23 ліпеня 2017 года пісаў я пра рэактывацыю чыгункі Бельск-Падляшскі — Гайнаўка. На пасяджэнні арлянскай Гміннай рады 30 чэрвеня 2017 года войт Пётр Сэльвесюк паведаміў, што завершаны таргі на рэактывацыю чыгуначнай ліні з Ляўкоў у Гайнаўку і што ўдалося выхадайнічаць чыгуначны прыпынак на той ліні ў вобрубе вёскі Міклашы. Раней быў прыпынак Арлянка і да яго было тры кіламетры з Орлі і каля кіламетра са Шчытоў. З залы не пачуліся галасы захаплення. Не было таксама захаплення ў жыхароў Міклашоў.

Сёлета, у студзені, сустрэў я некалькіх жыхароў Шчытоў. Сказалі, што яны незадаволены і не могуць пагадзіцца з тым, што чыгунка будзе, але не будзе прыпынку для іх «на Арлянцы». Жыхары дзвюх вёсак Шчытоў-Навадвораў і Шчытоў-Дзенцялова сабралі 197 подпісаў ад людзей, а ў тым ліку 35 подпісаў ад працаўнікоў мясцовай фірмы і выслалі прашэнне ў фірму, якая будуе лінію, ды ваяводу з просьбай, каб цягнікі спыняліся на прыпынку Арлянка. Там захаваўся добры стары перон і не трэба нічога дадатковага рабіць. Адказу ад фірмы, пакуль што, не атрымалі.

На сесіі Гміннай рады 30 сакавіка г.г. пацікавіўся я, ці Гмінная ўправа атрымала ад чыгуначных улад інфармацыю пра пададзеную заяўку за захаванне прыпынку Арлянка. І яшчэ спытаў, ці войт не быў бы супраць таго, каб цягнікі спыняліся так у Міклашах, як і ў Арлянцы.

Войт Пётр Сэльвесюк адказаў:

— Я не супраць таго, каб прыпынкі былі і ў Міклашах, і ў Арлянцы, і ў кожнай іншай мясцовасці. Адно гледзячы цераз прызму законаў, размяшчэнне гэтых прыпынкаў не залежыць ні ад войта, ні ад Гміннай рады. Я такога прашэння з подпісамі жыхароў Шчытоў не бачыў. Таксама няма абавязку, каб усе прашэнні траплялі да войта, усё ж такі праводзіў размовы. Першапачаткова было так, што прыпынку ў Міклашах зусім мела не быць. Удалося адстаяць прыпынак у Міклашах, наступны будзе, як і раней, на тэрыторыі Чыжоўскай гміны, у Моры. У юрыдычным плане чыгуначная тэрыторыя закрытая. Яны, будучы, не мусяць з нікім узгадняць і не залежаць ад ніякага войта. У сувязі з гэтым я падтрымліваю прашэнне жыхароў Шчытоў, аднак тут ніхто з нас не мае такой улады, што і як мае быць рэалізавана.

— Ці вядома пра тэрмін завяршэння рэактывацыі гэтай ліні? — дапытваю войта.

— Я чуў, што мае гэта быць у палове гэтага года, а зараз гаворыцца пра сёлетнюю восень. Работа праводзіцца.

* * *

Згаданая чыгуначная лінія на тэрыторыі Арлянскай гміны ўжо дэмантавана. Рэйкі былі парэзаны на кароткія сегменты, а спецыяльны кран грузіў іх (разам са шпаламі) на спецыяльны трактар. Транспарт кіраваўся ў заходнюю частку гміны. У людзей я даведваўся, што вазілі гэта мабыць недзе на склад у Чаромху.

Як будзе выглядаць рэактываваная лінія — невядома. Калі ў 1995 годзе яе закрывалі, ніхто і не думаў, што яе яшчэ рэактывуюць. Пасля дваццаці трох гадоў цывілізацыя і сюды быццам заглянула. Пра патрэбу такой ліні ведаў цар звыш сто гадоў таму і гэта дзякуючы яму яе пабудавалі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Яшчэ пра святкаванне Дня Волі Беларусі ў Варшаве

24 сакавіка 2018 года, напярэдадні сотай гадавіны з дня абвяшчэння незалежнасці Беларусі — Беларускай Народнай Рэспублікі — як сучаснай дзяржавы беларускай нацыі ва Успенскай царкве ў Варшаве адбылася падзячная імша. Літургію на беларускай мове адслужыў айцец Сяргей Гаек. Удзельнічалі ў ёй беларусы — выхадцы з Рэспублікі Беларусь і грамадзяне Рэспублікі Польшча, у асноўным выхадцы з Беласточчыны. Удзельнікі набажэнства мелі магчымасць карыстацца малітоўнікамі з тэкстам імшы на беларускай мове. Падчас пропаведзі святар напомніў аб гісторыі дзяржаўнасці беларускага народа: ад Полацкага княства, праз Вялікае Княства Літоўскае, дзе афіцыйнай мовай была старабеларуская мова, аб Беларускай Народнай Рэспубліцы, да абвяшчэння незалежнасці сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Айцец Сяргей Гаек праінфармаваў прысутных аб тым, што Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана на падставе пастановы з'езда каля 1800 выбраных народам дэлегатаў з беларускіх этнаграфічных абшараў: ад Смаленшчыны на ўсходзе да Беласточчыны на захадзе, і ад Піншчыны на поўдні — да Заходняе Дзвіны на поўначы. Святар адзначыў, што першым прэм'ерам урада Беларускай Народнай Рэспублікі быў Язэп Варонка — ураджэнец цяперашняга Сакольскага павета. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі працуе ў эміграцыі і цяпер. Яе старшынёю актуальна з'яўляецца спадарыня Івона Сурвілла з Канады.










У канцы імшы прысутныя праспявалі беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа» і прыняты ў 1918 годзе нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Пры цалаванні крыжа на заканчэнне набажэнства можна было атрымаць вельмі добрае выданне «Новага запавету» на тонкай, біблейнай паперы (пераклад з грэчаскае на беларускую мову). Ёсць там чатыры Евангеллі, Дзеянні Святых Апосталаў, пяць саборных пасланняў Святых Апосталаў, дванаццаць пасланняў святых Апосталаў а таксама Апакаліпсіс Святога Апостала Іаана Багаслова. «Новы запавет» быў надрукаваны ў Менску — сталіцы Рэспублікі Беларусь. Такое выданне з-за невялікага фармату (18 x 11 см) і невялікай вагі (з прычыны біблейнай паперы), вельмі надаецца для забірання ў падарожжа.

* * *

У свята Дня Волі Беларусі 25 сакавіка 2018 г. у Варшаве адбылося ўрачыстае шэсце. Яно выйшла а 11-ай гадзіне ад помніка Тадэвушу Касцюшку на Плошчы Жалезнай Брамы і прайшло вуліцамі Маршалкоўскай, Свентакшыскай, Новым Светам, Кракаўскім Прадмесцем і закончылася каля помніка Адаму Міцкевічу. Маршрут быў абраны невыпадкова: Тадэвуш Касцюшка і Адам Міцкевіч — сыны беларускай зямлі. Пры нагодзе варта напомніць, што ў цяперашнім Беластоцкім павеце, у гміне Гарадок, у вёсцы Мастаўляны нарадзіўся кіраўнік Студзеньскага паўстання 1863 года на тэрыторыі Беларусі — Кастусь Каліноўскі. Ён быў ахрышчаны ў касцёле ў тадышнім горадзе Ялоўка. Цяпер гэта вёска ў гміне Міхалова Беластоцкага павета.

У шэсці прынялі ўдзел беларусы — эмігранты з Рэспублікі Беларусь і грамадзяне Рэспублікі Польшча.

**Георгі ЗЮЗЯ з Рудні, фота Вітаўта Сіўчыка**

# Нязгода вядзе да трагедыі

На сесіі Гмінная рады ў Орлі 30 сакавіка г.г. у пункце вольных прапаноў солтыс Дыдулёў Антон Голуб паставіў пытанне звязанае з нядаўняй трагедыяй у Чыжоўскай гміне. Там, у спрэчцы за галіну дуба, які рос амаль на мяжы суседзяў, яго ўладальнік шматразова ўдарыў нажом жанчыну, даводзячы яе да смерці. Здарылася гэта тады, калі жанчына прывяла самаход з пад'ёмнікам, каб устараніць частку голля з яе боку. Віноўнік, 72-гадовы мужчына, трапіў у турму, але канфлікт не згас. Солтыс сказаў:

— Такая падзея можа здарыцца ў кожнай гміне. Ці тут задзейнічае закон мацнейшага, ці ёсць адміністрацыйны закон, які павінен рашаць такія канфлікты.

Войт Пётр Сэльвесюк адказаў:

— Адкажу так; гэта можа не запыт. Я пасля сустрэч ува ўсіх салэцтвах і вёсках. Тое, што здарылася ў Чыжоўскай гміне, гэта крайні прыклад таго, да чаго вядзе суседская нязгода. Гэты канфлікт за дрэва доўжыўся некалькі гадоў. І ці тое голле вартае было таго, што сышла з жыцця 55-гадовая жанчына, а віноўнік рэшту жыцця магчыма правядзе ў турме. І я, зараз ездзячы па вёсках і слухаючы пра праблемы людзей, пра прымушанне нейкіх асоб, што хтось нешта мусіць. Не можа так адбывацца, што нехта лічыць, што мае права вырашаць за іншых, настаўляць людзей супраць сябе, бо гэта канчаецца трагічна. Кожны жыве сваімі хваляваннямі, толькі чым гэта канчаецца...

Той дуб не быў варты, але з недахопу выцішэння, недахопу чалавечага падыходу, канфлікты канчаюцца трагедыямі. У сваёй гміне бывае, што сусед піша на суседа, што стаіць нейкая прыстаўка да хаты, да хлява. І што? Прыязджае будаўнічы нагляд, загадвае ўладальніку знесці будоўлю або зрабіць дакументацыю, атрымаць дазвол карыстання і да таго яшчэ некалькі тысяч штрафу. А той сусед, што заплаціў, у сваю чаргу, думае: я заплаціў дзве тысячы, то ты заплаціш пяць. І пачынаецца калатнеча. Пазней яны так разгарачваюцца, што жывуць толькі тым канфліктам, не могуць спакойна спаць і іншым перашкаджаюць нармальна жыць; а ў найгоршым выпадку канчаецца гэта трагедыяй.

Вяртаючыся да чыжоўскай трагедыі: аглядаў я ў TVN24 рэпартаж і мяне шакіравала тое, што нягледзячы на трагедыю, абодва бакі акапаліся на сваіх пазіцыях, кожны лічыць, што мае рацыю.

Кожны з нас дапускае памылкі, кожнаму здараецца дрэнныя паводзіны. Толькі трэба часам стаць збоку і прызнацца: дрэнна атрымалася, каюся. А таго няма. І калі няма, то справа даходзіць да трагедыі, — падкрэсліў войт.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

## Асцерагайцеся прайдзісветаў

Пры канцы сакавіка канчалася мне дамова з аператарам мабільнай сувязі «Орэндж» на выкананне тэлекамунікацыйных паслуг. Дагэтуль я карыстаўся пакетам «Спалучэнне ў добрай цане» і быў задаволены ім. Месячныя рахункі складалі ў сярэднім 80-90 злотых. Тычылася гэта інтэрнэту, тэлебачання і тэлефона. Дзесьці ў палове месяца патэлефанавала мне панечка з «Орэндж» і прапанавала пакет «Неастрада», у тым ліку тэлефон, тэлебачанне ды інтэрнэт за месячную плату 99,90 зл. Мела гэта быць «сенсацыйная» цана за паслугі. Прыбавіла, што можна будзе тэлефанаваць без абмежавання да ўсіх абанентаў — як мабільных, так і стацыянарных. Праўду сказаўшы, я тэлефаную больш з мабільніка чым са стацыянарнага тэлефона і цана за імпульс аднолькавая — 0,29 зл. Паколькі я ў гэтай справе надта не разбіраюся, дык сказаў кансультантцы, што параюся з дачкою і праз паўгадзіны дам адказ. Гэта было на адвячорку перад восьмай гадзінай. Дачка накінулася на мяне, што я раблю глупства, бо за «даладаванне» мабільніка за 30 зл. у месяц можна тэлефанаваць (па ўвядзенні адпаведнага коду) без абмежавання да ўсіх абанентаў у краіне. Калі я перадаў кансультантцы, што застаюся пры дагэтуль абавязваючым пакеце, дык мая субяседніца хоцькі-няхоцькі, як гэта кажуць, здалася, адно рэкамендавала праверыць для парадку мае даныя, якія зачытала. У канцы размовы аднак я засцерагаўся, што пагаджаюся на прадаўжэнне дамовы на чарговыя два гады пры дагэтуль абавязваючым пакеце, г.зн. «Спалучэнне ў добрай цане». Тыдзень пазней у маёй паштовай скрыньцы знаходжу новую дамову. Гляджу і вачам не веру: «Неастрада» дзякуе мне за выбар іхніх паслуг. Калі я патэлефанаваў у Беласток і сказаў дачцэ як справа маецца, дык гэтая доўга не думаючы пазваніла па інфалініі ў «Орэндж» і сказала: «Калі вы будзеце назойліва намагацца абдурыць старэчу сваімі «сенсацыйнымі» прапановамі, дык падам вас у суд; там разбяруцца», і закончыла размову. Праз чатыры дні завітаў да мяне кур'ер з дакументамі для подпісу дамовы. «Нічога падпісваць не буду», – рашуча заявіў без запінкі пасыльнаму. Гэты падзякаваў і ад'ехаў. Чакаў я нейкага водгуку з «Неастрады». Не прыслалі нічога. На гэтым справа закончылася.

Падобныя справы маюцца з Аліёр-банкам. Не развічыў я яшчэ даўнейшага крэдыту, а перад Вялікаднем тэлефануюць мне міленькія дамачкі і рэкамендуюць святочныя крэдыты на выгадных умовах. Выкідаю заявы без роздуму. Для такіх прайдзісветаў адно падпішы. Яны ўжо спосаб знойдуць, як з чалавека злупіць шкуру.

**Уладзімір СІДАРУК**

## У Міхалоўскай гміне

У Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета многае што робяць для дабра ўсіх жыхароў чатырохтысячнага горада Міхалова. Зараз уцяпляюць (тэрмамадэрнізуюць) будынак Пачатковай школы імя Уладыслава Сыракомлі ў Міхалове. Стала неабходна і таму разбудоўваюць водаправодную і сцёкавую сеткі на вуліцах Сасновай і Яваравай. Надышла пара на перабудову вуліцы Клёнавай (яе ўжо будуюць) ды на добраўпарадкаванне пляцоўкі распалажанай паміж вуліцамі Сонечнай і Пясковай.

Ужо пачалі будаваць санітарную каналізацыю ў доўгай і прыгожай вёсцы-вуліцоўцы Новая Воля (яна налічвае 290 жыхароў). Ужо ідзе трэці год як вёска мае кальцавую магістральную дарогу. Па новай асфальтавай дарозе па-за сялом едуць легкавыя аўтамабілі і грузавікі з Міхалова ў Юшкавы Груд, Шымкі і ў прыгранічную Ялоўку або ў Бандары, Семяноўку і Нараўку.

Зараз з прыходам вясны пачалі сячы густыя кусты, а таксама старыя і сухія дрэвы на абочынах гмінных дарог у Луплянцы, Шымках і Цісоўцы. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


## Вясна прамаўляе голасам птушак!

Нашы сябры з Бабікаў кожны год прыязджаюць на Тэатральны конкурс. У гэты раз падрыхтавалі п’есу «Заяц варыць піва». Гэта каларытны расповед пра свет птушак і жывёл на словы класіка Уладзіміра Караткевіча дапамагае пазнаць імёны нашых меншых братоў і іх характар.

— Наш Верабейка — жулік, — кажа з усмешкай Мартына Ігнатовіч, — з-за ляноты ён губіць свае планы і мары. Але яму і так шанцуе...

У прыватным жыцці Мартына любіць Верабейку, бо ён умее ўсіх развесяліць. Мова пра Матэвуша Валянтыновіча. Пачуццё гумару і чуткае ўвасабленне ў ролю Верабейкі прыкмеціла журы ў саставе Яніна Плютовіч, Міра Лукша, Аліна Філіновіч, якое прысвоіла яму вылучэнне.



Выступаюць Бабікі



Хлопцы з 7 «ц» бельскай «тройкі»

— Дзякуючы спектаклю мы даведаліся шмат пра птушак, — кажа Матэвуш. — У іх, як і ў людзей, свае клопаты і радасці...

Свет птушак і жывёл прыблізілі таксама касцюмы акцёраў. Дзеці і моладзь прыгадалі як выглядаюць чапля, арол, бусел, салавейка, сініца...

Праўда, гэты спектакль меў свае хібы. Для дзяцей надта карысна было б больш папрактыкавацца ў мове, бо, як сказалі нашы сябры, беларуская мова для іх не чужая. Яе можна пачуць яшчэ ў навакольных вёсках. А такія спектаклі дапамагаюць называць з’явы і птушак, якія ўжо вярнуліся з выраю.

— У маю вёску Хмялеўшчынуўжо прыляцелі буслы, — цешыцца Матэвуш. — Я гляджу на іх і думаю як прадставілі мы іх у нашым спектаклі.

Вучні з Бабікаў прыехалі са сваімі сябрамі з Шудзялава і настаўніцай Тацянай Андрацкай. Але пра іх напішам у наступных нумарах «Зоркі».

**ЗОРКА**

**Фота: Ганны Кандрацюк**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Вожык і хамяк

Хамяк намаўляў вожыка:

— Давай, браток, пароднімся, аддай да мяне на выхаванне свайго сынка. Буду яму бацькам, а табе найлепшым сябрам.

А калі пасля доўгіх намоў вожык згадзіўся, хамяк сказаў:

— Цяжка яго цалаваць і галубіць! Змімі, калі ласка, з яго іголкі, каб мне зручней было прытуляць да грудзей малечу.

Вожык згадзіўся. Ён аддаў аголенага з іголак сынка на выхаванне. А хамяк з’еў важанятка і нічога ўжо немагчыма было зрабіць. І сышоў абдураны вожык у вялікім горы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

**Наталля Каліцкая**

## Калыханка для Мацейкі

Скача ў полі верабейка,
Спаць не хоча наш Мацейка.
Заблудзіліся дрымоты,
Пратапталі нават боты.
Я дрымоты пагукаю.
Калыханку праспяваю.
Люлі-люлі, люлі-бай.
Спі, наш хлопчык, засынай.

## УВАГА КОНКУРС! № 17-18

**Дуга злучыла берагі**
**Прыгожа, нібы ў казцы,**
**А вось званочак да дугі**
**Прымацаваць не ўдасца.**
**В......**

(Ніл Гілевіч)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 6 мая 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 13-2018: камар. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Юлія Клімчук, Габрыела Крупіч, Анна Іванюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Мая Тапалянская, Аліўка Порац з Нарвы, Дам’ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Мой герой – беларус!

## Конкурс на 100-годдзе БНР

Дарагія сябры! Сёлета адзначаем сотую гадавіну Акта 25 Сакавіка — Свята Волі, дзень, які адзначаюць тысячы беларусаў у цэлым свеце. У нас, на Падляшшы, укаранілася традыцыя святкавання. Пра свята гаворым на ўроках беларускай мовы і на школьных лінейках, у сям'і і на мастацкіх мерапрыемствах.

Каб годна і творча адзначыць сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, мы прыдумалі для вас святочны конкурс. Вашай задачай будзе напісаць твор на тэму:

**МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!**

Падумаеце — хто такі можа стаць вашым героем?

Перад вамі шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці:

— вашым героем можа стаць тата, брат, мама, сястра, дзед, цёця, бабуля ці іншы сваяк або любы знаёмы...

— настаўнік, мастацкі інструктар, апякун праекта...

— гістарычны персанаж, пісьменнік, грамадскі дзеяч, журналіст, мастак...

— ваш любімы літаратурны герой...

— ваш сябра або сімпатыя...

Конкурсныя працы можаце напісаць у форме верша, апавядання або журналісцкіх жанраў — рэпартажа, фельетона, эсэ, інтэрв'ю.

Працы будуць ацэнены адмысловай камісіяй, якая назначыць супер файныя ўзнагароды — веласіпед, беларускія кніжкі і CD з беларускай музыкай, запрашэнне на журналісцка-мастацкія майстаркласы Сустрэчы «Зоркі».

Конкурсныя працы дасылайце да 1 мая 2018 года.

Конкурс прадбачаны для вучняў пачатковых школ і гімназій. Не адкладвайце задачу, пачніце думаць, рыхтавацца і пісаць ужо сёння.

**Ганна Кандрацюк**



# Беларускія конкурсы ў Нарве

У нашай школе ў Нарве праходзілі конкурсы «Роднае слова» і «Гавэнда». Удзельнічала ў іх 25 вучняў. Упершыню выступілі дзеткі з нулявых класаў. Найбольш ахвотных было дзяцей з класаў I–III.

У конкурсе расказчыкаў «Нарва-2018», найвышэйшую ацэнку атрымалі Аліўка Жэпко, Карнэлія Вшэбароўская, Марко Кутузаў і Юлька Шкляжэўская. Узровень падрыхтоўкі вучняў да конкурсаў быў даволі высокі, у чым заслуга нашай настаўніцы, дэкламатараў, а таксама бацькоў, калі ідзе пра дашкольнікаў.

Конкурсная камісія ў складзе Ніна Абрамюк, Кацярына Іванюк і Валянціна Базылюк прысудзіла дэкламатарам наступныя месцы.

**Вучні класаў I– III:**

I месца — Аліўка Жэпко, Карнэлія Вшэбароўская,

II месца — Ігар Сэвэрын,

III месца — Уршуля Петручук.

Вылучэнні: Эмілька Смактуновіч, Кіра Герасімюк, Кася Апольская.

**Вучні класаў IV– VI:**

I месца — Клаўдзія Ніканчук,

II месца — Аліўка Порац,

III месца — Марта Петручук, Наталля Карчэўская, Крыстына Кутузаў.

Вылучэнні: Оля Мадзалеўская, Тамаш Ваўранюк.

Сярод гімназістаў першае месца заняў Уладзіслаў Кутузаў, а другое Марко Кутузаў. Усе ўдзельнікі атрымалі ўзнагароды, якія купіў бацькоўскі камітэт.

У час раённых адбораў, якія адбываліся 23 сакавіка ў Бельску, мне, на жаль не пашанцавала. Вучні нашай школы ўдзельнічалі таксама ў Тэатральным конкурсе ў Беластоку. Яны паказалі п'есу «Я солтыс».

**Клаўдзія Ніканчук, шосты клас ПШ у Нарве**
**Фота: Я. Іванюк**

Лукаш АНХІМ
ПШ у Міхалове

## Як гэта з буслямі было

Кружыць бусел над дахамі.
Вышывае кольцы дзюбай і крыламі.
Дзеці выбеглі з хаты:
Высока ляціць крылаты!
Бусліха стала ў гняздзе на доўгія ногі.
Накрыла пёрамі дзетак-нябогаў.
«Ціха, спіце, а-а-а,
Не будзіце суседа-вераб'я!
Татка ваш паляцеў па жабы,
Пятляе па лугах, заглядае ў равы і ставы.
Ну а пасля абеду
Будзем вучыцца лятаць як трэба.
Лета мінае дзень за днём
І развітаемся з нашым гняздом.
Перад намі цяжкі шлях
У сонцы і ў дажджах».
Восень і зіма мінуць як міг.
Вясной у нашым гняздзе
Новых буслянят выведуць буслы.

# Польска-беларуская крыжаванка № 17-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 13-2018:**

Вярба, мур, пуля, мапеды, вецярок, сон-трава, навука, Сі, лік, аныж, знак, на, іва, ода. Клан, вуж, Іна, яр, вонкі, брацтва, пярун, пераказ, будова, но, лыка, сад, піка.

Узнагароды — наклейкі — выйгралі **Караліна Цар, Габрыся Лашчук, Бартак Гулевіч, Дар'я Лажэцкая** з бельскай «тройкі», **Марлена Сіроцкая, Адрыян Максімюк, Бартэк Місяюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Тамаш Ваўранюк, Аліўка Порац** з Нарвы, **Караліна Харыла** з Міхалова. Віншуем!



# Вярнуць прадзедзеную бацькаўшчыну

Цэлы год чакалі спадкаемцы беларусаў выселеных з ваколіц чашы Семяноўскага вадасховішча і няскончанага, а нават не распачатага канала Нарва — Супрасль адказу ад польскага заступніка правоў грамадзян. Справу вяртання нявыкарыстаных экспрапрыяваных зямель ад сарака год справядліва афармілі ўлады Міхалоўскай і Гарадоцкай гмін (праз зямлю тамашніх гаспадароў меў праплываць канал). А Нараўчанская гміна, праз войта і самаўрад, атрымаўшы зямлю ва ўласнасць або пад распараджэнне (зямля куды магла б разліцца ўхопленая ў дамбы Нарва, з'яўляецца дзяржаўнай уласнасцю праз Ваяводскую ўправу меліярацыі і водных установак (ВУМіВУ) — стала прадаваць яе на аўкцыёнах або забудоўваць будынінамі дзеля забавы і адпачынку. А чаму, напрыклад, цэлы ўчастак 1459/1 уваходзіць у склад Семяноўскага возера, яго чашы, якой вада належыць дзяржаве, хаця ўчастак ляжыць на сушы, у былой Луцэ? ВУМіВУ інфармуе яшчэ раз (2016 г. і 2017 г.), што «чаша вадасховішча Семяноўка ўтвораная з пярэдняй дамбы, пяці бакавых дамбаў і тэрыторыі якая знаходзіцца непасрэдна пад вадой да месца, дзе мора ўзняцца вада да 145 метраў над узроўнем мора, ды прылеглай тэрыторыі, ствараючай ахоўную зону вады (буфер), якая знаходзіцца пад пагрозай падтаплення і прызмерный вільгаці. ВУМіВУ, усё ж, аддае ў арэнду гэтую тэрыторыю, хаця кожны раз агаворваецца пісьмова, што аддае яе «не дзеля ахвоты яе арандавання», але дзеля рэалізацыі мэт мясцовага плану прасторавага добраўпарадкавання.

Як вынікае са зместу арт. 136, уст. 1 і 2 закона ад 21 жніўня 1997 г. аб гаспадарцы нерухомасцямі (Dz. U. 2004, nr 261, poz. 2603 з пазнейшымі зменамі), *экспрапрыяваная нерухомасць не можа быць выкарыстаная на іншыя мэты чым названыя ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, з прыняццем пад увагу арт. 137, хіба што папярэдні ўласнік або яго спадкаемца не пададуць заяву на вяртанне ім гэтай нерухомасці ды ў выпадку намеру прызначыць экспрапрыяваную нерухомасць або яе частку на іншую мэту чым намечаная ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, адпаведны орган паведамляе папярэдняга ўласніка або яго спадкаемцу аб гэтым намеры, адначасова інфармуючы аб магчымасці вяртання экспрапрыяванай нерухомасці.*

Усоды наша прападала! — махалі рукой пані Зося ці дзед Міхась. Колькі там выпала на кожнага! Ці ўжо ўсе канцы ў ваду пайшлі?.. Дзе тое, што належала да Харкевічаў, Грэсюкоў, Красніцкіх, Каральчукоў, Лобачаў, Лукшаў, Новікаў, Шульскіх, Садоўскіх, Стоцкіх, Салавеяў, Васільчыкаў, Жукоўскіх, Анцуткаў, Бірыцкіх, Байчукоў, Бандарукоў, Буйкаў, Дабжынскіх, Грыгольцаў, Грыцоў, Канажэўскіх, Лаўнічукоў, Місевічаў, Станкевічаў, Трахімчукоў, Скепкаў, Самоцікаў, Засімаў, Рыгаровічаў, Ляшчукоў, Смольскіх, Пакутнікаў?.. Ці іхнія нашчадкі могуць назад вярнуць свой кавалак зямлі і паставіць на родным хату? Паспрабавалі гэта зрабіць Удадзіслаў і Івона Бірыцкія...

Балюча ўсім, каму аднялі родную зямлю і разагналі па свеце. Гэта: Харкевіч Павел сын Антона, Харкевіч Арсен с. Антона, Харкевіч Зофія дачка Аляксандра, Харкевіч Уладзіслаў с. Ігната, Грэсюк Феафіла, Красніцкая Анна д. Давіда, Кардаш Фёдар, Каральчук Аляксандр с. Амяльяна, Лобач Уладзіслаў с. Венядзікта, Лобач Сіман с. Венядзікта, Лукаш Васіль с. Трафіма, Новік Марыя д. Трафіма, Новік Марыя д. Максіма, Новік Аляксандр с. Сцяпана, Новік Канстанцін с. Міхала, Новік Васіль с. Сцяпана, Пакутнік Ян с. Дзям'яна, Шульскія Юлія і Міхал, Садоўскі Уладзіслаў с. Уладзіслава, Стоцкая Марыя д. Яна, Стоцкі Аляксандр с. Якуба, Стоцкі Міхал с. Якуба, Салавей Васіль с. Васіля, Смольскі Якуб, Васільчык Мікалай с. Цімафея, Васільчык Юльян с. Мікаля, Жукоўскі Сяргей с. Юльяна, Жукоўская Вольга д. Ануфрыя, Жукоўскі Герасім с. Мікалая, Жукоўскія Марыя і Вера, Анцутка Рыгор с. Сцяпана, Анцутка Уладзімір с. Сцяпана, Анцутка Андрэй с. Сцяпана, Бірыцкі Канстанцін с. Юзафа, Бойчук Аляксандр і Ян, Бойчук Антон с. Юзафа, Бірыцкі Мікалай с. Якуба, Бандарук Лук'ян с. Андрэя, Бура Мікалай с. Ануфрыя, Бірыцкая Марыя д. Яна, Буйко Міхал с. Мікалая, Харкевіч Ян с. Сімана, Жукоўскі Піліп с. Юзафа, Харкевіч Цімафей с. Яна, Харкевіч Пелагея д. Яна, Харкевіч Васіль с. Рыгора, Харкевіч Сяргей с. Рыгора, Харкевіч Фёдар с. Антона, Харкевіч Антон с. Канстанціна, Харкевіч Мікалай с. Юльяна, Харкевіч Аляксандр с. Андрэя, Харкевіч Аляксандр с. Антона, Дабжынскі Уладзіслаў с. Пятра, Грыголец Антон с. Антона, Грыц Антон с. Канстанціна, Каральчук Сяргей с. Сцяпана, Каральчук Сцяпан, Кардаш Павел сын Карнілы, Камажэўская Валянціна д. Адама, Лаўнічук Аляксандра д. Максіма, Лукша Трафім с. Сяргея, Лукша Сяргей с. Трафіма, Лобач Лявон і Сяргей, Лаўнічук Аляксандр с. Мікіты, Лаўнічук Ян с. Уладзіслава, Лаўнічук Мікалай с. Канстанціна, Місевіч Міхал с. Канстанціна, Новік Наталля д. Касьяна, Новік Юрый і Антаніна, Новік Агата д. Васіля, Новік Юльян с. Мірона, Новік Валянціна д. Міхала, Новік Цімафей с. Мікалая, Новік Міхал с. Рыгора, Новік Юльян с. Рыгора, Новік Уладзіслаў с. Яна, Новік Канстанцін с. Максіма, Раманюк Якуб с. Андрэя, Стоцкі Мікалай с. Антона, Садоўскі Уладзіслаў с. Аляксея, Садоўскі Сцяпан, Станкевіч Вераніка, Станкевіч Станіслаў с. Юзафа, Стоцкі Мікалай с. Максіма, Салавей Васіль с. Юзафа, Смольскі Пётр с. Паўла, Скепка Ян с. Васіля, Сімаковіч Аляксандр с. Аляксея, Саўко Рыгор с. Ігната, Самоцік Дзмітрый с. Паўла, Смольская Настасся д. Яна, Стоцкі Васіль с. Венядзікта, Стоцкі Ян с. Яна, Стоцкі Сяргей с. Аляксандра, Шульскі Юльян с. Аляксандра, Шульскі Ян с. Аляксандра, Стоцкая Параскева д. Антона, Стоцкі Уладзімір с. Васіля, Стоцкі Мікалай с. Цімафея, Стоцкі Максім с. Канстанціна, Трахімчук Антон с. Кандрата, Васільчык Лявон с. Герасіма, Васільчык Юльян с. Рыгора, Васільчык Тамаш с. Андрэя, Віткоўская Настасся д. Сімана, Жукоўскі Дзмітрый с. Яна, Жукоўскі Васіль с. Рыгора, Жукоўскі Піліп с. Піліпа, Жукоўскі Піліп с. Сцяпана, Жукоўскі Уладзімір с. Мікалая, Стоцкі Аляксандр с. Андрэя, Васільчык Цімафей с. Дзям'яна, Засім Мікалай с. Піліпа, Рыгаровіч Ян с. Мікалая, Рыгаровіч Мікалай с. Мікалая, Лешчук Мікалай с. Сцяпана. З усёй лучанскай зямлі 21,96 гектараў належала яшчэ Дзяржаўнаму фонду зямлі. Іх зямлю экспрапрыявалі пад пабудову Семяноўскага вадасховішча і **нязробленага** 17-кіламетровага канала Нарва — Супрасль. Адзін з прапашчых праектаў ПНР, краіны якая мела быць поўнасцю аднанацыянальнай і багатай. Паможаце такую збудаваць? «Паможам!».



Засталіся палі, лугі, лес, дарогі гмінага карыстання, якія перасякалі вёскі і палеткі ад стагоддзяў. Вёсак ужо не было...

Ужо 5 снежня 1991 г. было вядома, што згодна з артыкуламі 35 уст. 2, пкт. 1 закона з 25.04.1985 г. аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасці і распараджэннем Рады Міністраў ад 16.09. 985 г. вялікая частка нерухомасцей не была неабходнай для мерапрыемства і інвестар «перадаў іх у распараджэнне дзяржаўных арганізацыйных адзінак». А тыя сталі імі распараджацца, бясплатна, з момантам перадачы ім здача-прыёмнага пратакола з днём 30 снежня 1991 года. І так, напрыклад, Нараўчанская гміна стала ўласніцай участкаў № 918, 920, 923,925, 926, 927, 928, 930, 936, 940, 941, 942/1 і паловы ўчастка 939, велічынёй кожны па ад 0,16-0,17 га ў Луцэ і Слабодцы. Ваяводская ўправа меліярацыі і водных установак выступіла за пагашэнне сваёй управы над гэтай зямлёй плошчай у 2 335 гектараў, экспрапрыяваных на патрэбы вадасховішча Семяноўка. Яны ляжалі цяпер па-за абсягам вадасховішча, і нават досыць далёка ад берагоў. Гэтая маёмасць была цяпер ВУМіВУ **zbędna**. 24 мая 1991 г. тое ж самае атрымалася з 14,74 га грунтоў у Тарнопалі...

**Усё для ўсіх**

Гмінная ўправа выдае *zaświadczenie 18.03.2016 г.:* „Гмінная ўправа ў Нараўцы інфармуе, што згодна з мясцовым планам прасторавага добраўпарадкавання **адпачынковага комплексу** «Лука — Стары Двор» над вадасховішчам Семяноўка, зацверджаным Ухвалай № XVIII/161/01 Рады гміны Нараўка ад 24 красавіка 2001 г. (Dz. Urz. Woj. Podlaskiego Nr 14, poz. 270 z dnia 30.05.2001 г.) **участак №1459/1** велічынёй **19,1999** га распаложаны ў абсягу Лукі прызначаны ў частцы на тэрыторыю паркавай, лугавой і лясной зелені са спартыўнымі, гульнявымі, культурнымі і гастраномна-гандлёвымі прыладамі, а часткова пад агульнадаступныя пляжна-купальныя прылады і для спортаў і адпачынку на вадзе, са спадарожнічаючымі ім прыладамі і ўстаноўкамі такімі як пляжы, месцы для купання, памосты для прычалаў лодак і для прагулак, спартыўныя пляцоўкі для гульняў малых і сярэдніх, пераапранальні, санітарыяты, прылады для гульняў для дзяцей і моладзі, пляжы і купальні, спортпляцоўкі для гульняў на паветры, пазычальні прылад, месцы для вогнішчаў і аб'язныя гандлёва-гастраномныя прылады, часовыя або галоўным чынам для патрэб рыбнай лоўлі і бівакаў ды захоўвання чысціні, у тым ліку памосты для рыбалкі і прычальвання, ангары, пазычальні плавальных і рыбалоўных прылад, дашкі забяспечваючыя ад сонца і ападкаў, рыбачоўкі, смажальні рыб, падзеленыя месцы для абозаў з блізкім доступам да вады, аб'язныя і часовыя гастраномна-гандлёвая кропкі, часткова месца пад моладзевыя турбазы, кемпінгі і палеткі на біваку, часткова на даязныя дарогі, часткова пад прылады для воднага і зямных спортаў, патрабуючых умеласцей і ліцэнзій, асабліва плавання пад парусамі, веславання, віндсёрфінгу, плавання на водных лыжах, буерах, а часткова пад агульнадаступныя прылады для воднага адпачынку, г.зн. для купання, культурнага адпачынку, шпацыраў па краявідзе, для аматараў парусных лодак байдарак, для аматарскага і прафесійнага рыбалоўства... А таксама для аховы краявіду, прыроды і дыдактычна-пазнавальнай навукі. (...) Рыхтуецца таксама гольфавае поле і месцы для адпачынкова-дачнага будаўніцтва, што зацверджана Ухвалай № XVII/153/08 Рады Гміны Нараўка ад дня 27 кастрычніка 2008 г. (....) Участак № 1459/1, распаложаны ў Луцэ, прызначаны часткова для зялёнага абшару сарганізаванага згодна з правіламі для карыстання спортам і адпачынку — тут мае быць гольфавае поле з атачэннем».

Гмінная ўправа Нараўчанскай гміны заінвеставала ў пазычаныя ім землі, хаця яны ёй не належаць. Увесь участак, як неаднаразова піша ВУМіВУ, юрыдычны наступнік Вяводскай управы сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку, уваходзіць у чашу Семяноўскага вадасховішча, і можна яго арандаваць згодна **з запісаным** планам прасторавага добраўпарадкавання. Падобна як участак 1459/1, як і 1457, арандуецца, пазычаецца і выкарыстоўваецца. Ліст з Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі і Падляшскай бяспекі ОР паведамляе, што браліся непасрэдныя датацыі на ўчастак 1459/1. Тут яшчэ раз інфармуецца, што гэта экспрапрыяваныя грунты са шматлікіх участкаў, якія ўведзены ў склад цяперашніх участкаў, памечаных цяпер нумарамі 1457 і 1459/1. Яны ўласнасць дзяржказны — маёмасць ВУМіВУ у Беластоку. Варта прыгадаць, што ВУСІ пісала аб тым, што гэтыя ўчасткі ў вялікай частцы **маюць застацца сельскагаспадарчымі**.

Начальнік гміны ў Нараўцы 27 верасня 1989 г. у *Decyzji* рашыў пераняць як «перамаючая адзінка» пагашаныя нерухомасці разам з «карысцямі і цяжарамі» на сябе, значыць на Гмінную ўправу, як маёмасць Дзяржаўнага фонду зямлі. У абгрунтаванні інфармуе, якім чынам яны пагаслі і чаму — пераcталі яны быць патрэбныя згодна з былым планам прасторавага добраўпарадкавання і «*winny* быць яны выкарыстаны для лясной і сельскагаспадарчай вытворчасці». Гмінная ўправа ўключыла іх да сваіх здабыткаў ДФЗ. Дакумент трапіў *ad acta*, у Ваяводскую ўправу сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку ды ў Аддзел геадэзіі і гаспадаркі грунтамі філіял у Гайнаўцы. Падобна разлічыліся з участкамі паверхняй 2 355 квадратных метраў вёсак Лука і Слабодка 15 снежня 1991 г., паводле прынцыпаў распараджэння прэзаса Рады Міністраў ад 16.09.1985 г. у справе дэталёвых прынцыпаў і спосабу аддавання пад управу і карыстанне **дзяржаўнымі** нерухомасцямі і перадачы іх паміж дзяржаўнымі арганізацыйнымі адзінкамі і аплаты за іх. У гэты раз рашэнне падымае Раённая ўправа ў Гайнаўцы, а паведамляе аб гэтым Ваяводскую ўправу меліярацыі і водных установак, Гмінную ўправу ў Нараўцы і Эвідэнцыю грунтоў. : «Niniejsza decyzja jest wykonalna na podstawie art. 130 par. 4 KPA".

На дакументах ВУМіВУ пералічвае перад войтам гміны ў Нараўцы 24 мая 1991 г. участкі, якія ім цяпер **непатрэбныя**. Тут ёсць і подпісы гаспадароў гэтых участачкаў — Садоўскага Юзафа, Бірыцкага Паўла, Сухадолы, Харкевіч. Падпісваюцца, што вядомае ім рашэнне, што іхнія ўчасткі трапяць цяпер пад распараджэнне гміны. Разам 14,74 гектара. А ў «**obrębie Siemianówka g. Narewka**» — участак № 17 плошчай 3,97 гектара, участак № 517-20,94 га, № 564-7,04 га і меншыя — па 0,97 га, 0,20 га, 0,34 га, 0,21 га — разам 33,67 га — тут уручную дапісалі: «jest decyzja». І яшчэ са Слабодкі — участкі амаль усе па ледзь у сотку — але разам 2,585 гектара. Агулам для перадачы — 50,795 гектара. Далучаны былі па тры экземпляры з рэгістру грунтоў абсягу вёсак Тарнопаль, Семяноўка, Лука і Слабодка. Грунты былі ўжо непатрэбныя інвестару. У жывых гаспадароў, якія мусілі іх аддаць сілай за зламаны шэляг, не пыталіся, ці хочуць іх назад. Грунты былі ўжо супольныя і сталі імі распараджацца гмінныя ўправы.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# Кніжны кірмаш на памежжы культур

Яшчэ перад сустрэчай з Марцінам Полакам пашанцавала мне набыць у беларускіх выстаўцоў яго «Затушаваныя краявіды» і атрымаць аўтограф пісьменніка. Аўстрыйскі пісьменнік, журналіст і перакладчык прыехаў у Беласток з прэзентацыяй новай кнігі «Tropiciel złych historii» на VII Міжнародны кніжны кірмаш, у рамках якога праходзіў Літаратурны фестываль «На памежжы культур». Пісьменнік звязаны з Польшчай больш за пяцьдзясят гадоў. Аднак найбольшую славу прынесла яму аўтабіяграфічная кніга «Смерць у бункеры», прысвечана бацьку — нацысту і ваеннаму злачынцу. Няслаўны сямейны матыў займае шмат месца ў кнізе-інтэрв'ю «Tropiciel złych historii», таму тэма нацыяналізму і адраджаючагася фашызму заняла галоўнае месца ў час беластоцкай прэзентацыі.

— Ці ў Аўстрыі пагражае адраджэнне фашызму? — спытаў нехта з беластоцкай публікі.

— Сорам. Я не думаю, што гэта пагроза, — гаварыў пісьменнік, — хаця такая з'ява выступае. Вялікае значэнне мае тут адукацыя.

Тут паслужыў прыклад з ягонай сям'і, у якой дзяды і бацькі да канца жыцця былі ачмурэлыя нацысцкай ідэалогіяй. Сваю незалежнасць абавязаны школе, у якой сутыкнуўся з дзяцьмі ваенных уцекачоў...

З тэмай халакосту і нацызму неад'емна асацыюецца прозвішча рэпартажысткі Ганны Краль. На сустрэчу з легендарнай пісьменніцай сцягнула публіка з цэлага ваяводства, ды не толькі. А сустрэча атрымалася асаблівай. Ганна Краль зачытала фрагменты свайго манументальнага тома «Фантому болю» і прапанавала слухачам скласці з іх вобраз.

— Няма народаў лепшых і горшых, — гаварыла яна між чытаннямі, — ніхто не мае манаполіі на дабро і зло. Ніхто з нас не ведае праўды...

Уражвала засяроджанасць публікі, якая час ад часу ад удзячнасці ўспыхвала апладысментамі.

Вядучы сустрэчу журналіст Міхал Ногасць у канцы так падвёў прэзентацыю:

— Я дзякую спадарыні Ганне Краль за тое, што яна павяла сустрэчу з Ганнай Краль!

Аўтарскія чытанні здміналі таксама сустрэчу з самым таленавітым прадстаўніком маладога пакалення ў польскай літаратуры — Міхалам Ксёнжкам. Ксёнжак прэзентаваў новы том паэзіі «Паўночны ўсход», выдадзены Фондам «Суседзі». Яго паэтычныя страфы прасякнутыя голасам птушак і пошумам раслін.

— Нядаўна я вярнуўся з Нямеччыны і прыкмеціў, што там у час прэзентацый амаль увесь час чытаюць творы аўтара, — адзначыў.

Нашу ўсходнюю частку краіны паэт і аўтар «Якуцка» і «Дарогі 816» палічыў самай натхняльнай і цікавай для літаратуры.

Доўгачаканай і каларытнай аказалася сустрэча з польска-венгерскім пісьменнікам Кшыштафам Варгай.

— У маёй навейшай кніжцы «Zonnenberg» я распавядаю гісторыю аднаго няпростага кахання з венгерскага пункту гледжання. Але нельга сказаць, што я венгерскі пісьменнік, паколькі пішу па-польску.

Яго творчасць ведаюць у Венгрыі дзякуючы перакладам аўтарства Лаёша Палфолві.

— Ад яго я даведаўся пра Крынкі, Сакрата Яновіча і беларускую меншасць у Польшчы, — заявіў пісьменнік, калі пачуў, што прадстаўляю беларускую меншасць.

Сярод шматлікіх прапаноў фестывалю, які доўжыўся з 20 па 22 красавіка, самай важнай і прыемнай была сустрэча з Мірай Лукшай. Паслухаць польска-беларускія чытанні прыйшлі студэнты, паклоннікі творчасці і сябры паэтэсы са студэнцкіх часоў. Таму частку сустрэчы занялі ўспаміны, якія, як усё што пабачыла і перажыла аўтарка, выспелі пасля ў яе творчасці.

Цягам трох дзён я наведвала беларускую вітрыну, вакол якой заўсёды было шмат людзей і знаёмых. Тут можна было сустрэць не толькі беластоцкіх сяброў і чытачоў. Яны прыехалі з Бельска, Гарадка, Саколкі, Нарвы... Як не дзіўна, найбольшую зацікаўленасць выклікалі дзіцячыя кніжкі. Апрача згаданых ужо «Затушаваных краявідаў», я набыла беларускі пераклад албанскага празаіка Імануіла Кадарэ і навейшую кнігу Уладзіміра Някляева.

Хоць найбольшы сюрпрыз чакаў мяне ў хаце. Пасля вяртання яшчэ раз я пераглянула набытыя кніжкі. На канец зазірнула ў «Kroniki beskidzkie i światowe», навейшую кнігу Анджэя Стасюка. А там ... першы расказ — ну проста магія! — пра пакручастую дарогу на «Трыялогі» ў Крынкі... У тым часе польскія СМІ трубілі пра арышты арганізатараў неафашысцкага канцэрта ў Дзержанёве на Дольнай Сілезіі. Так менавіта закончыўся для мяне чарговы, трэці дзень VII Кніжнага кірмашу і Літаратурнага фестывалю «На памежжы культур», які прыдумаў і ажыццяўляе Андрэй Каліноўскі, старшыня беластоцкага Фонду «Суседзі».


Міра Лукша


Ганна Краль і Міхал Ногасць

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Кніга «Па Прыпяці па Нобель» прыплыла ў Варшаву і Беласток

У падарожжах і чарговых аўтарскіх сустрэчах правяла мінулы тыдзень наша рэдакцыйная сяброўка Ганна Кандрацюк. Спачатку 17 красавіка прайшла прэзентацыя ў варшаўскім Беларускім доме, які распаложаны па вуліцы Вейскай, насупраць польскага Сейма. Цяжка не заўважыць гэтага месца, бо здалёк бачны бел-чырвона-белы сцяг, які красуецца на балкончыку гэтай установы. Выступленне аўтаркі было накіраванае перш за ўсё да групы дваццаці студэнтаў розных універсітэтаў з Беларусі, што прыехалі ў Польшчу па запрашэнні Беларускага дома. Сярод удзельнікаў былі і маладыя людзі, якія каранямі звязаны з Палессем, а нават бацька аднаго з маладзёнаў родам з гэтых мясцовасцей, якія апісвае аўтарка на сваіх старонках. Прыемна было таксама пачуць, што беларуская мова ў студэнтаў нефілалагічных аддзяленняў з'яўляецца важнай справай для іхняга вонкавага выяўлення. Пра аўтарку не забылася таксама і сям'я, якой маладыя прадстаўнікі з'яўляюцца зараз студэнтамі ў Варшаве. Прыемна было бачыць на сустрэчы і паразмаўляць з Зінай Туронак і Юркам Зюзям, без якіх не ўявіць беларускага варшаўскага жыцця ў мінулым стагоддзі. Уся сустрэча прайшла ў вельмі сімпатычнай атмасферы з цікавымі пытаннямі ад маладых людзей.

Два дні пазней, у чацвер 19 красавіка, кніжка Ганны Кандрацюк мела сваю прамоцыю ў Беластоку. Традыцыйным месцам такіх сустрэч у апошнім часе з'яўляецца „Склеп з культурай", гэта значыць гасцінная зала для сустрэч пры Пачатковай школе № 4, якую прыстасавала для сваёй дзейнасці Аб'яднанне ў карысць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Традыцыйным вядучым усіх такіх сустрэч з'яўляецца Мікола Ваўранюк, які на самым пачатку заявіў што Ганна... гэта таксама і яго траюрадная сястра. Адным словам паляшуцка-падляшская пароднёнасць выявілася і ў гэтым выпадку. На мяне асаблівае ўражанне пакінуў Віктар Швед, які не толькі заявіў, што ўжо прачытаў кніжку, але сваімі назіраннямі вельмі трапна адчуў як аўтарка працавала з героямі кніжкі. Сам Мікола Ваўранюк заявіў наступнае: «Як я прачытаў кнігу, адразу захацеў паехаць туды, на Палессе. Ганна Кандрацюк мае талент, нейкую прыродную лёгкасць да таго, каб сустракаць цікавых людзей, каларытных герояў, якія сустракаюцца на кожнай старонцы кніжкі». Згодна з традыцыяй герояў кніжкі сама аўтарка ў падарунку за сустрэчу атрымала кветкі, песні і слоік мяса. Бязмежная палеская гасціннасць завандравала і ў беластоцкія падвалы. У траўні кніжка будзе мець сваю прамоцыю ў Менску і іншых гарадах Беларусі.






Ява

# У Гародні прайшла дзіцячая краязнаўчая канферэнцыя

У Гародні 21 красавіка прайшла V Абласная навукова-практычная краязнаўчая канферэнцыя вучняў „Край Гарадзенскі". У гімназіі №1 імя акадэміка Яўхіма Карскага сустрэлася больш за сотню навучэнцаў старэйшай школы вобласці, якія выступалі на 21 секцыі. Адмысловым госцем урачыстай часткі канферэнцыі быў Дарафей Фіёнік — руплівец беларускай і мясцовай падляшскай культуры ў Бельску-Падляшскім. Разам з ім прыехалі фальклорныя гурты „Жэмэрва" і „Жэўжыкі", якія паказалі пра варыяцыі краязнаўчай працы на Падляшшы.

Кажа Дарафей Фіёнік: — Вопыт месца, зносін з іншымі людзьмі. Інфарматары — гэта тыя, што спяваюць песні для нас, гэта тыя, што перадаюць гісторыі, веды пра звычаі і абрады. Тут гэты вопыт цікавы перадусім для маладога пакалення, бо маладыя бачаць, што гэтыя песні, якія яны спяваюць, не бяруцца са спеўнікаў ці падручнікаў, і нават не з аўдыёвыданняў, якія нехта запісаў, — яны іх пачулі самі. Пачэснае месца на канферэнцыі было за беларускай мовай. Рэфераты навучэнцаў былі па-беларуску, і дыпломы ўдзельнікі форуму краязнаўцаў атрымалі на беларускай мове.

Тэкст і фота **Якуб СУШЧЫНСКІ, Беларускае Радыё Рацыя,**














# http://graves.by

Кажуць, чалавек жыве, пакуль аб ім памятаюць. Праўда, памяць аб памерлым можа быць рознай. Адна — калі пра чалавека не проста думаюць, але і моляцца за спачын яго душы, другая ж, больш распаўсюджаная, калі даглядаюць за магілай, прыносяць на Радаўніцу кветкі, упрыгожваюць надмагілле. Часам здараецца так, што нехта і хацеў бы прыйсці на магілу шмат гадоў памерлага сваяка, але не ведае, дзе яна. Асабліва гэта тычыцца людзей, якія не жывуць на сваёй радзіме, але хочуць пабачыць магілы продкаў. Аднак, часцяком зрабіць бывае немагчыма, калі могілкі, напрыклад, ужо знеслі, альбо вельмі цяжка, калі не ведаеш, дзе менавіта ў той ці іншай мясцовасці пахаваны твой родзіч. У апошнім выпадку на дапамогу прыходзіць адзін апантаны зборам даных аб старых магілах актывіст — Андрэй Бурдзянкоў, які не так даўно стварыў сайт пра старыя беларускія пахаванні.

Паколькі пытанні, якія так ці інакш звязаныя са смерцю, цікавыя для людзей, то і сайт аб магілах, верагодна, таксама будзе цікавы вялікаму колу тых, хто хоча ведаць, дзе ляжыць яго продак. Калі зазірнуць на сайт, які мае назву „Інтэрнэт-база старых магіл" і месціцца па адрасе **www.graves.by**, то перад нашымі вачыма адкрыецца крыху сумнае выяўленне — фотаздымкі могілак, надмагілляў, храмаў сярод пахаванняў. Гэта, зразумела, не выклікае весялосці. „Гэты вэб-сайт з'яўляецца базай гістарычных надмагілляў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі сёння. Яго мэта ў тым, каб захаваць гісторыю нацыі, дапамагчы генеалогіі і выхоўваць маладое пакаленне. Перайдзіце праз раздзел „Знайсці магілу", каб знайсці вашы радавыя могілкі і правесці пошук па імені. Упішыце даныя вашага продка, каб паставіць кропку на карце ў раздзеле „Продкі", каб абменьвацца інфармацыяй з іншымі, хто шукае тыя ж імёны", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта.

Цікава, што мова сайта — англійская. „Цяпер створаны сайт на англійскай мове, таму што, у разуменні Андрэя, ягоная мэтавая аўдыторыя англамоўная, і менавіта яна сабрала грошы, якіх хапіла на палову першай вэрсіі дадатку. Але без беларусаў сайт будзе не вельмі жывы, пераканаўны Андрэй Бурдзянкоў, таму цяпер дапрацоўвае беларускамоўную вэрсію", — распавядае пра сайт Радыё „Свабода", якая пагутарыла са стваральнікам сайта-некропаля.

Варта адзначыць, што Бурдзянкоў сам шукае і фатаграфуе магілы, ездзіць па могілках. Нават прадаў сваю кватэру, каб дадзены сайт з'явіўся. Згодна інфармацыі на сайце, Бурдзянковым так ці інакш „апрацавана" 29 могілак, 5150 надмагілляў, ёсць звесткі пра 6553 персаналій. Паколькі праект не камерцыйны, то грошай на яго звычайна не хапае. „Калі зьявіцца беларускамоўная вэрсія сайту, Бурдзянкоў разглядае варыянт зьбіраць сродкі на краўдфандынгавых плятформах", — распавядае „Свабода".

„Я падумаў, што ў XXI стагодзьдзі павінна быць інтэрнэт-база, прычым ня проста пералік пахаваных на канкрэтных могілках, а з GPS-прывязкай да мясцовасьці, каардынатамі зь мінімальнай хібнасьцю, каб чалавек мог самастойна знайсьці месца пахаваньня свайго продка і аддаць яму даніну памяці, сьвечку паставіць", — кажа Бурдзянкоў.

У рубрыцы „Кантакты" ён падае свой тэлефон і электронную пошту, каб зацікаўленыя ў пошуках магіл сваіх родных маглі запытацца ў яго па дадзенай тэме ці зрабіць нейкую прапанову.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



## Падзеі і асобы БНР

### 95 гадоў з дня смерці

# Ігната Канчэўскага

З біяграфіі беларускага філосафа, паэта, публіцыста, сучасніка БНР Ігната Канчэўскага вядома зусім няшмат. Меў ён кароткі век і пражыў толькі 27 гадоў. Але ўвайшоў у гісторыю нацыянальнай ідэалогіі, найперш дзякуючы сваёй цікавай працы „Адвечным шляхам". Напісаная яна і вядомая пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч, узятым з аповесці Максіма Гарэцкага „Дзве душы".

Нарадзіўся Ігнат Канчэўскі ў Вільні ў траўні 1896 года, дакладны дзень нараджэння невядомы. Паходзіў з сям'і судовага чыноўніка, брат Арсеня Канчэўскага. Лёс малодшага брата, актыўнага дзеяча заходнебеларускага руху надзвычай трагічны. У 1931 годзе ва ўзросце ўсяго 29 гадоў ён загінуў, патануўшы ў Чорным моры.

У 1913 годзе Ігнат Канчэўскі скончыў Віленскае рэальнае вучылішча, далей вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, Маскоўскім універсітэце (1913-1916). Служыў у войску, пасля службы вучыўся на Вышэйшых кааператыўных курсах пры ўніверсітэце імя А. Л. Шаняўскага (Масква, 1917 год). Падзяляў праграму эсэраў, падтрымліваў украінскі нацыянальны рух. Працаваў у розных кааператыўных установах у Вільні і Смаленску. З 1919 года ў Мінску, працаваў у Саўнаргасе, у Цэнтрасаюзе спажывецкіх таварыстваў Беларусі. У халодным і галодным Мінску ён захварэў на сухоты, што істотна скараціла яго век.

Вярнуўшыся ў родную Вільню, Канчэўскі акрамя беларускіх спраў грунтоўна вывучаў заходнюю філасофію і займаўся ўсходнімі філасофскімі практыкамі. Вядома, што заснаваў у Віленскай беларускай гімназіі гурток заняткаў ёгай.

Ігнат Канчэўскі друкаваў вершы, палітычныя артыкулы, рэцэнзіі ў віленскай прэсе. Актыўна пісаў вершы і артыкулы па кааперацыі. Аўтар знакамітага эсэ „Адвечным шляхам" (выйшла ў Вільні ў 1921 годзе) пра драматызм беларускіх гістарычных лёсаў.

Аснова светабачання і жыццёвай пазіцыі Ігната Канчэўскага — адданасць беларускай справе, любоў да Бацькаўшчыны, ахвярная праца на карысць народа. У сваім філасофскім эсэ ён раскрыў драматызм гістарычнага лёсу беларусаў, іх імкненне захаваць незалежнасць свайго духу. Галоўнай мэтай народа лічыў дзяржаўную незалежнасць, разглядаў яе як агульначалавечы ідэал. Адной з галоўных перашкод лічыў бюракратычную сістэму дзяржавы і дух „канцыլярыі". Цывілізаваны шлях вырашэння грамадскіх праблем бачыў у вольнай творчасці, непрымусовых формах сацыяльнага аб'яднання людзей, у выбары „трэцяга, сялянска-рамесніцкага шляху вольных брацтваў і кааперацыі — паміж дзікім капіталізмам і тыранічным сацыялізмам".

Паводле канцэпцыі Канчэўскага беларускае светабачанне ўзнікла ў выніку спрадвечнага змагання паміж двума тыпамі культуры — заходнім і ўсходнім. Беларусы за тысячу гадоў ні да якога з іх так і не далучыліся. У гэтай раздвоенасці ён бачыў трагедыю нашага народа.

Вершы друкаваў пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч і Ганна Галубянка. Паэтычная творчасць Канчэўскага вызначаецца філасофскай пранікнёнасцю ў сутнасць народнага жыцця, спалучэннем прыгажосці беларускага слова з нацыянальным светабачаннем, замілаваннем да чалавека, верай у адраджэнне і будучы росквіт Бацькаўшчыны (вершы „Па святой зямлі...", „Вераснёвае панно", „Так прыгожы старыя званіцы...", „На матывы Р. Тагора", верш у прозе „Мы разам...").

Памёр Ігнат Канчэўскі 23 красавіка 1923 года ў Вільні, пахаваны на знакамітых могілках Росы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дэмаграфія Супрасльскай гміны

Зараз у Супрасльскай гміне Беластоцкага павета пражывае 14 862 чалавекі ў 29 населеных пунктах. Займае яна плошчу ў 189 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва складае 76 асоб на квадратны кіламетр. У вышэйзгаданай гміне на 100 мужчын прыпадае 106 жанчын. Найбольшыя мясцовасці: горад Супрасль налічвае 4548 асоб, Грабаўка — 3543, Засцянкі — 2474 і Сабалева — 1451.

Да вялікіх вёсак належаць Агароднічкі — 791 чалавек, Каракулі — 557, Саўляны — 413, Генрыкова — 357 і Цяснэ — 350. Сярод малых вёсак — 76 жыхароў налічвае Целічанка і 39 Сакалда ды да 30 асоб налічваюць сямнаццаць мясцовасцей, у тым ліку Падлазні — 24 асобы, Копная Гара, Казлы і Падсакалда — па 19 асоб, Красны Лес — 17, Суражкова — 16, Варонічы — 15, Маёўка — 14 і Заціша — 12.

Ужо перасталі існаваць тры мясцовасці: Пячонка, Зялёна і Садовы Сток. Усяго дзве асобы пражываюць у Здроях і адна ў Пад'ялоўцы.

На працягу двух апошніх гадоў пабольшала жыхароў у Грабаўцы, Засцянках, Сабалеве, Агароднічках, Каракулях, Саўлянах, Цясным, Генрыкове і Целічанцы. Перш-наперш прыбывае жыхароў у вёсках, якія найбліжэй Беластока. У гарадской і вясковай гміне прыбыло 330 чалавек.

Сёлета з мінулагодняга спіска «Залатое вяселле» згуляла васямнаццаць пажылых шлюбных пар. Яны — мужы і жонкі — у пары пражылі з сабой 50 гадоў.

# Васількаўская дэмаграфія

Зараз Васількаўская гміна Беластоцкага павета налічвае 15 826 чалавек. У горадзе Васількаў пражывае 10 616 асоб (10-тысячным горадам стаў ён у 2014 годзе). У гміне ёсць васямнаццаць мясцовасцей. Найбольшыя вёскі гэта Студзянкі — у ёй пражываюць 1092 чалавекі, Навадворцы — 941, Юроўцы — 717, Сахоне — 713, Дамброўкі — 535, Асовічы — 315, Рыбнікі — 270, Селяхоўскія — 187 і Вулька-Прадмесце — 160. Да меншых вёсак у гэтай гміне належаць Варашылы — яна налічвае 80 чалавек, Гараднянка — 57, Катрынка — 56, Вулька-Падухоўная — 38, Запечкі — 19, Масток — 15 і Ажыннік — 12.

Зараз найменшым пасяленнем у Васількаўскай гміне з'яўляецца Засцянак — у ім пражываюць усяго тры асобы. Засцянак — назва ад часткі зямлі, якая заставалася пры валочнай памеры за каралевы Боны па-за межамі вёскі ды межамі суседніх вёсак. У Запечках даўным-даўно будавалі печы, каб у іх гнаць смалу або вырабляць паташ. У Варашылах і ў Селяхоўскіх яшчэ і цяпер жывуць асобы, якія маюць прозвішчы Варашыла і Селяхоўскі.

За апошнія пяць гадоў значна павялічылася колькасць жыхароў у вёсках Навадворцы — на 264 (!), Юроўцы — 101, Асовічы і Студзянкі — па 82, Дамброўкі — 79, Сахоне — 75 і Селяхоўскія — на 46. **(яц)**

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАСТОКУ**

**запрашае на**

**раённыя элімінацыі 45 конкурсу „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ” для прадшколляў, пачатковых школ і гімназіяў**

**27 красавіка 2018 г. (пятніца) у 10.00 гадзін Бельскі дом культуры**

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАСТОКУ і ВОЙТ ГМІНЫ БЕЛЬСК-ПАДЛЯШСКІ**

**запрашаюць на**

**К а н ц э р т к а л е к т ы в а ў**

- **„ПАЖАРНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ” з Парцава**
- **„РОСЫ” з Рыбалаў**
- **„ЛАЙЛАНД” з Беластока**
- **„СВІТАНАК” з Беластока**

**29 красавіка 2018 г. у 12.00 г. Парцава – амфітэатр**

**Зрэалізавана дзякуючы датацыі Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі**



# Яшчэ адна новая святліца

У вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета прыгожыя святліцы перш-наперш драўляныя. Яны найлепш дапасаваныя да тутэйшай вясковай архітэктуры і пушчанскага краявіду. Такія вясковыя дамы культуры знаходзяцца, між іншым, у Ахрымах, Заблотчыне, Міхнаўцы, Нараўцы, Новым Масеве, Гушчэвіне, Плянце, Семяноўцы і ў Тарнопалі.

Нядаўна яшчэ адну новую святліцу здалі ў карыстанне ў Лешуках. Пабудавала яе гміна. Яна мураваная. У ёй ёсць хлебная печ, г.зв. пліта і камінок. Сёлета перад Вербніцай у лешуцкай святліцы пяклі „буславую лапу”, упрыгожвалі кветкамі вербачкі і малявалі яйкі. 7 красавіка гэтага года ў суботу перад Вялікаднем у святліцы жыхары гэтай вёскі і настаяцель Стараляўкоўскай парафіі мелі асвяціць пасху (допіс пішу 4 красавіка г.г.).

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вялікая цыліндрычная пасудзіна з выпуклымі бакамі = 3 _ 2 _ 25 _ 10 _ 11 _;
2. верхняе прыкрыццё пасудзіны = 29 _ 30 _ 31 _ 32 _;
3. антонім пераду = 17 _ 18 _ 1 _;
4. група спартыўных каманд прыкладна роўных па майстэрстве = 19 _ 20 _ 23 _ 24 _;
5. засеяны ўчастак зямлі = 14 _ 22 _ 12 _ 13 _;
6. лінія, адметная якасць у... Барысаве = 4 _ 5 _ 6 _ 7 _;
7. вітае белае пірожнае прадаўгаватай формы = 21 _ 26 _ 27 _ 28 _;
8. шкло ў аконнай раме = 15 _ 16 _ 8 _ 9 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | | 17 | 18 |
| | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Гвардыя, арыя, дакор, Об, Мухавец, ціс, палена, здабыча, Паўлінова.

Рашэнне: **Добрыя вочы дыму не баяцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 29.04 — 05.05

**(22.03. — 20.04.)** 29-30.04. не разлічвай на спакойны час дома. Зможаш зрабіць добры інтарэс. Не будзе лёгка, але здолееш перамагчы перашкоды. На працы на спіне адчуеш подых канкурэнцыі. Дбай аб свае вочы і еж лёгкія вячэры.

**(21.04. — 21.05.)** У першыя дні выдатны час на заснаванне сваёй фірмы, Венера сыпане дадатковай касай. Але не бяжы адразу на пакупкі, лепш адкладзі. Заляцаць табе ў галаву думкі, як раскруціць сваю кар'еру. Але глядзі: 29-30.04. могуць вылезці плёткі! 1-5.05. радаснае сямейнае або кампанейскае здарэнне. Набярэш вопыту, павысіш свае кваліфікацыі.

**(22.05. — 22.06.)** Наладжвай кантакты, прымай запрашэнні. Сінглам шыкуюцца фантастычныя рандэву. Інтэлектуальныя забавы. 1-5.05. шанц на незабыўны раман! У пачуццях настаўляй сябе на слуханне. У пастаянны парах цяпло і блізкасць. Сярод сяброў і радні прабач і забудзь.

**(23.06. — 23.07.)** Не падмятай нічога пад дыван, асабліва ў сямейных справах. Можаш з-за гэтага быць пастаўлены пад сценкай! Кажы, што табе не падабаецца. Будуць з табою лічыцца. Не спяшайся з рашэннямі, бо ў шмат тваіх выбарах галоўную ролю адыграе выпадак. Пастарайся дзейнічаць на ўласную руку, каб нікому ў нічым не быць абавязаным. Будзеш завалены працай, дык зрабі сабе загадзя дакладны план.

**(24.07. — 23.08.)** Не абяцай нікому зашмат (асабліва 29-30.04.). Дома трэба будзе адыграць ролю гаспадара і галавы сям'і. Справы ўдадуцца лепш, чым ты спадзяешся. Падкрунецца твая амбіцыя. Ды будзеш нецярплівы. 1-5.05. фантастычна і жарсна ў пачуццях. Адазвіся да старых сваякоў. На працы пабудзь яшчэ ў другім радзе, але паказвай сваю ініцыятыву і адвагу. Адпачывай актыўна.

**(24.08. — 23.09.)** Новыя шанцы ў прафесіі. Пазітыўны адказ на тваю аплікацыю на працу. Наладзь карэспандэнцыю з аўтарытэтам. На тваім рахунку выразны рост. Не камуфлюй свайго цела, варта крыху яго паказаць! На пачатку мая будзеш крыху нервовы і лішне ўражлівы. Нервова і на працы; 4-6.05. можаш быць прымушаны да нялёгкіх рашэнняў. Але не шкадуй часу для сям'і. 1-3.05. не дай сябе ўвесці ў зман беспадстаўнымі абяцаннямі. Еж, што хочаш.

**(24.09. — 23.10.)** 29-30.04. можаш стаць ахвярай злоснай інтрыгі. У маі будзеш моцным працаўнікам, прытым вельмі прыгожым, і нішто не пераможа цябе ў імкненні да мэты. Выйдзеш наперад і будзеш на гэтай пазіцыі да канца. Будзеш атракцыйным аб'ектам захаплення. На працы канкурэнцыя вельмі моцная, але з табой не мае шанцаў. Не пазбегнеш кантактаў з лекарамі, але будуць гэта толькі кантрольныя візіты.

**(24.10. — 22.11.)** Не дай сябе ўцягнуць у нейкія розыгрышы 29-30.04. Але 29-30.04. моцна наблізішся да рэалізацыі сваіх запаветных мэт. Зразумееш, што ўсё залежыць ад цябе самога. Дакажаш, што хацець гэта значыць змагчы. З 5.05. рамантычныя сустрэчы. Многа не наробішся, не шкадуй часу на адпачынак. Лепш папацець пры спорце!

**(23.11. — 22.12.)** Больш цані сам сябе на працы ці ў школе; вучыся, знаёмся з навінкамі. Будзеш ведаць, на чым стаіш і як дасягнуць сваю мэту. Толькі кажы ясна, чаго чакаеш. Без нерваў, спакойна можаш запавольць тэмп. Нагоды да мілых фліртаў. Самотнаму Стральцу шырока ўсміхнецца Венера! Хвалі сваю другую палавінку, асабліва 1-5.05.; аддзячыць з шырокім жэстам. Адпачывай, уцякай ад стрэсу, паляжы сабе ў спакоі.

**(23.12. — 20.01.)** У канцы красавіка адкрыеш у сабе патрэбы і мары, пра якія ты і не думаў. Уключы пятую скорасць. На працы трэба будзе змерыцца з часам, мусіш падзяліцца абавязкамі, не бяры на сябе новых і цяжкіх абавязкаў (і так цябе ацэняць). Дома прыдадуцца мудрасць і вопыт. Да відных рэзультатаў дойдуць Казярогі з пераломy II і III дэкады знака.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш зарабіць на чымсьці нетыповым. Усё ідзе ў адпаведным напрамку. Хутка хапай быка за рогі і не азірайся за сябе! Дарога да поспеху будзе ашчаднена перашкодамі, але не паддасіся. 1-5.05. — найлепшы час, каб выбыітацца з памылковых адносін. Нагоды да сустрэч і забаў з сябрамі. Кепскі настрой папраўіць табе фізічны высілак.

**(20.02. — 21.03.)** Тое, што здавалася быць запаветнай марай, мае шанцы на здзяйсненне! Лаві нагоды! З 5.05. заінспіруюцца твае крэатыўнасць і фантазія. Кожная сітуацыя абернецца ў тваю карысць! Абмінеш перашкоды і выкарыстаеш шанцы. Вырашальны момант для пары ў крызісе: або паразмаўляеце шчыра ды раз і назаўсёды, і закрыеце мінулае, або палічыце, што няма ўжо чаго збіраць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# За трыдзевяць зямель

Цяперашняя наша публічная камунікацыя дае вельмі абстрактныя магчымасці падарожнічаць да некаторых мясцовасцей нашага ваяводства. Напрыклад, каб дабрацца з Беластока на поўнач Гродзіскай гміны трэба падавацца за казачныя трыдзевяць зямель. Вось і мне давялося падарожнічаць туды спярша поездам у Яблань-Касцельную каля Шэпятова, а адтуль пару дзясяткаў кіламетраў байкам.

Ад згаданай Яблані ў гмінныя Пякуты-Новыя дарога прыстойная, ад Пякутаў у Маркова-Вульку поўна ўхабін і трэба зігзагамі і слаламамі; ад Прушанкі ў Мень жвіроўкай. У Карпе масток цераз Нурэц, які найлепш прайсці пяшком, бо асфальт на ім грунтоўна паламаны. Па вёсках інтэнсіўны пах жывёльнай прысутнасці — гэта краіна малаком плывучая, краіна „Млекавіты”...

У Рудцы дарога ў бок Гродзіска абмінае касцёл. Наогул касцельныя дакументы скрупулёзныя, а на партале парафіі нечаканая гістарычная неадназначнасць: „Dokumenty kościelne poświadczają, że obecną murowaną świątynię w Rudce, wzniósł w latach 1740-1754, Józef Kanty Ossoliński, syn Franciszka Maksymiliana. Według innych informacji, które również zasługują na poważne potraktowanie, budowa trwała od 1753 do 1759 roku. Natomiast dokumenty konsekracji świątyni nie zostały odnalezione. Jedynie wiadomo, że kościół poświęcony został w 1761 roku”.





■ Колішні гродзіскі храм у скансэне ў Карыцінах

За Алендамі дарога ўваходзіць у лес. Тут ужо зусім іншыя пахі, да таго ж лес густа высцелены буйным белым дыванам цвітучых анемонаў. За лесам Малышчын; манаграфія Гродзіскай гміны пяра Тамаша Яшчалта падае, што ў 1921 годзе было 12 дамоў, у якіх пражывалі 93 асобы: 83 католікаў і 10 праваслаўных — усе палякі... Перад Малышчынам здалёк паказваецца вежа касцёла ў Чаях. Паводле манаграфіі Гродзіскай гміны Чаі калісь называліся Чахамі; відаць назва мясцовасці вывелася з тае ж самае крыніцы, што і Чахоў-Арлянскіх ці Чахоў-Забалотных.

Рашаю пад’ехаць у Чаі, каб зблізку глянуць на касцёл. Зараз за Малышчынам губляю з віду касцельную вежу; гэтак жа калісь знікалі мне з віду купалы царквы ў Баратынцу-Рускім. Магчыма, што вакол Сямятыч бываюць нейкія аптычныя анамаліі, можа тут дзейнічае нейкая прыродная з’ява, якая яшчэ да нашага часу не распрацавана навукоўцамі. Касцёл у Чаях, так як нечакана мне схаваўся, так жа нечакана і паказаўся. Перад касцёлам у Чаях помнік „Млоту” — Уладыславу Лукасюку. Нарадзіўся ён у Такарах, што на рэчцы Точнай, левым прытоку Буга; за Сямятычамі. Да вайны быў, м.інш. намеснікам войта Сарнацкай гміны. Вікіпедыя: „Był człowiekiem solidnym, odpowiedzialnym, mającym świetny instynkt partyzancki. Wyróżniał go na tle innych dowódców bardzo silny charakter. Pomimo kalectwa zawsze maszerował w pierwszym szeregu, razem ze swoim oddziałem. Starsi mieszkańcy Podlasia pamiętają, że poruszanie sprawiało mu duże kłopoty. Musiał podpierać się swoim karabinem SWT. W ciągu kilku lat stał się ze zwykłego dowódcy plutonu, prawdziwą legendą Podlasia. Lubił go i liczył się z nim sam mjr „Łupaszka”. Uważa się, że cechowała go dbałość o ludność cywilną (zwalczanie bandytyzmu i złodziejstwa). Kapitan Władysław Łukasiuk „Młot” zginął na kolonii wsi Czaje-Wólka, zastrzelony przez swojego podkomendnego Czesława Dybowskiego „Rejtana”. „Młot” zastrzelił młodszego brata Czesława — Leopolda, ponieważ nie wykonał on zleconego przez „Młota” wyroku śmierci na cywilach (podejrzewanych o współpracę z UB — dla jego podkomendnego samo podejrzenie nie wystarczyło, aby zabić cywilów). Widząc to, „Rejtan” zastrzelił „Młota”. W Czajach-Wólce (gmina Ciechanowiec), 15 lipca 2006 roku, nastąpiło uroczyste odsłonięcie pomnika poświęconego pamięci Młota. Jeszcze przed uroczystościami pomnik został zniszczony (prawdopodobnie przez lokalną społeczność, wśród której „Młot” nie cieszył się dobrą opinią). Pośmiertnie, postanowieniem prezydenta RP Lecha Kaczyńskiego z 9 listopada 2007 „za wybitne zasługi dla niepodległości Rzeczypospolitej Polskiej” został, wraz z dwoma innymi „żołnierzami wyklętymi” — Kazimierzem Kamieńskim i Zygmuntem Szendzielarzem odznaczony Krzyżem Wielkim Orderu Odrodzenia Polski, a przekazanie orderów odbyło się 11 listopada tego samego roku w czasie uroczystości z okazji Narodowego Święta Niepodległości”.





■ Дубы ў Сямёнах




У Чаях касцёл рэктаральны, значыць менш важны за парафіяльны, якім кіруе рэктар, які без згоды парафіяльнага пробашча не можа выконваць некаторых літургічных паслуг, напр. хрысціць, вянчаць ці спраўляць паховін...

Вяртаюся ў Малышчын, а адтуль кіруюся ў напрамку Карыцінаў. Недзе год таму жвіроўка з Малышчына ў Карыціны была густа аздоблена калдобінамі, зараз насціл надалей жвіровы, быў роўна ўтрамбаваны, а цяпер тое дарожнае палатно — не вечнае — моршчыцца. І ўжо праязджаецца па гэтай жвіроўцы як па валкаўніцы. Магчыма, што ў самаходзе гэтага не адчуваецца, але байкера непрыемна патрасае...

У Карыцінах пад’язджаю да капліцы, што на акраіне вёскі. Гэта філіяльны храм парафіі ў Рудцы. Аднак больш інфармацыі пра капліцу не ўдаецца мне даведацца: няма яе ні на месцы, ні на партале Рудчанскай парафіі. Але ў Карыцінах ёсць яшчэ адна капліца, якой назва таксама неадназначная; зараз найчасцей падаецца яна пад заступніцтва Маткі Боскай Ягаднай. Яна знаходзіцца ў адмысловым скансэне, які вядзе зёлкавая фірма „Зёлкавы закутак”. Раней стаяла яна ў Гродзіску. Яе гісторыя незвычайная, хаця лёс яе надта чалавечы. Была гэта раней уніяцкая царква, якая пасля стала праваслаўнай царквой, а яшчэ пазней каталіцкім касцёлам. І калі ў гэтага храма былі „храмасомы” X і Y, то з гэтага нарадзілася пара гродзіскіх дзетак: царква і касцёл, а сам храм на старасць трапіў у своеасаблівы прытулак: „Historia przeniesionej z Grodziska do Korycin kaplicy sięga 1709 roku. Wówczas to starosta drohicki ufundował w Grodzisku unicką cerkiew pw. Narodzenia NMP. Po kasacji Unii w latach 1887-1891 wybudowano obok murowaną cerkiew prawosławną. Były kościół unicki został zamknięty. Po odzyskaniu niepodległości w 1923 roku katolicy odzyskali opustoszały, pounicki kościół, plebanię i beneficjum. W latach 1987-1990 w Grodzisku zbudowano nową, murowaną świątynię — od tego czasu stary, drewniany budynek nie był wykorzystywany. Aby ocalić kościółek od całkowitego zniszczenia, proboszcz wraz z radą parafialną zgodzili się na przeniesienie go do Korycin. Dziś posadowiony wśród morza ziół i kwiatów przeżywa swoją drugą młodość, odwiedzany przez tysiące turystów Ogrodu Botanicznego w Korycinach”.

„Зялёны закутак” гэта шматпрофільная фірма. Найбольш вядомыя зёлкі, якія прапануюцца ў шырокім вееры зёлкавых магазінаў па цэлай краіне. Да таго ж там і начлегі, і карчма, і паказны агарод для асветніцкіх мэт, і скансэн, і... Адмысловы стэнд паведамляе, што галоўнымі мэтамі Зёлкавага агарода з’яўляюцца ахова рэдкіх відаў раслін, прыродная адукацыя грамадства і ўсведамлянне важнасці раслін у чалавечым побыце.

Каля двух кіламетраў ад „Зялёнага закутка” вёска Сямёны. Гмінная манаграфія падае, што назва мясцовасці выводзіцца ад царкоўнага імені Сямён-Сімяон. У 1921 годзе ў вёсцы пражывалі 273 асобы, усе палякі — 171 католік і 102 праваслаўныя; у маёнтку 102 асобы — 84 католікі, 14 праваслаўных і 4 жыды. Калі мова пра маёнтак — дворскі будынак быў перанесены ў цеханавецкі скансэн, а вось дворскі парк, у якім захавалася за паўсотку шматвяковых дубоў з’яўляецца зараз помнікам прыроды.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
17